# “КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”

**незалежны перыядычны *on-line* часопіс**

**у падтрымку беларускай культуры і беларускасьці**

## №19

## Верасень 2017

## 19-ты нумар прысьвячаецца Францішку Скарыне, у 500-годдзе друкаваньня першай беларускай кнігі



*Часопіс заснаваны ў сьнежні 2012 года*

*Выходзіць раз на тры месяцы*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

*Аттава, Канада*

КУЛЬТУРА НАЦЫЯ

## Дарагія сябры!

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** заснаваны як незалежнае перыядычнае выданьне, прызначанае для абмеркаваньня праблем беларускай культуры і развіцьця беларускасьці.

Часопіс зьмяшчае арыгінальныя аналітычныя артыкулы, эсэ, а таксама абгрунтаваныя дыскусіі і каментары па гісторыі, мове, літаратуры, сацыялогіі, традыцыях і іншых пытаньнях, маючых дачыненьне да развіцьця беларускай нацыі.

Беларуская Мова – асноўная мова часопіса, але магчымы публікацыі і на рускай, англійскай, і французскай мовах.

Запрашаем да супрацоўніцтва ўсіх зацікаўленых.

*Свае матэрыялы дасылайце на* chasopis.sakavik@hotmail.com

Часопіс **“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”** публікуецца на вэб-старонцы www.sakavik.net

**Рэдакцыя часопіса:**

*Заснавальнік і рэдактар* Пётра Мурзёнак

*Сябры рэдакцыі* Наталія Баркар

Вольга Іпатава

Вікторыя Казлова

Сяргей Панізьнік

Галіна Туміловіч

*Аттава, Канада*

## Зьмест часопіса

*Прадмова рэдактара*

Пётра Мурзёнак **19-ты нумар часопіса “Культура. Нацыя”, верасень 2017** **(**стар. 5-6)

*Editorial*

Piotra Murzionak **19th issue of "Culture. Nation", September 2017** (7-8)

*Дыскусія: “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасьць. 2015 - 2017”*

**“Стратэгія развіцьця беларускай нацыі”** *(на 30 верасьня 2017 года)* (9-13)

*Сёмы з’езд беларусаў свету (15–16 ліпеня 2017 года, Мінск)*

**Інфармацыя пра Сёмы з’езд беларусаў свету** (14-15)

**Выніковая рэзалюцыя Сёмага з’езда беларусаў свету** (16-17)

Валянціна Шаўчэнка **Нататкі з Бацькаўшчыны** (18-23)

Інтэрв’ю Яўгеніі Бурштын з **Валянцінай Шаўчэнка, дэлегатам 7-га з’езда беларусаў сьвету ад Канады** (24-27)

*Эсэ*

Пётра Мурзёнак **Францішак Скарына – чалавек Беларусі еўрапейскай** (28-37)

Сяргей Панізьнік **Да Скарынаўскага юбілею** *(здымкі)* (38-41)

*Паэзія*

Сяргей Панізьнік **Вершы** (42-51)

Святлана Кабанава **Вершы** (52-65)

*Інтэрв’ю*

**Экспрэс-інтэрв’ю з Аксанай Колб, галоўным рэдактарам газеты “Новы час”, узятае сп. Валянцінай Шаўчэнкай для часопіса “Культура. Нацыя”.** (66-68)

*З жыцьця беларускіх суполак*

Алег Рудакоў **Святкаваньне беларускіх дажынак у Іркуцку** (69-72)

*Каляндар важнейшых дат у жыцьці беларусаў у гэтым годзе* (73-75)

*Наступны 20-ты нумар часопіса выйдзе ў сьнежні 2017 года*

*Прадмова рэдактара*

**Пётра Мурзёнак: 19-ты нумар часопіса “Культура. Нацыя”, верасень 2017**

Дарагія чытачы!

Сёлетні год адметны для Беларусі 500-гадовым юбілеем кнігадруку – Францыск Скарына ў 1517 годзе ў Празе упершыню выдаў кнігу на старабеларускай мове. Дзевятнадцаты нумар часопіса прысвечаецца гэтай адметнай для беларускай нацыі даце. У нумар уключаны матэрыялы, якія непасрэдна адносяцца да вельмі важнага юбілею ў гісторыі Беларусі, так і іншыя традыцыйныя для часопіса артыкулы.

Непасрэдна скарынаўскай тэматыцы прысвечана эсэ рэдактара часопіса Пётры Мурзёнка “Францішак Скарына – чалавек Беларусі еўрапейскай”, а таксама вершы і фотаздымкі, дасланыя сп. Сяргеем Панізьнікам у азначэньне слаўнага юбілею.

19-ты нумар часопіса па традыцыі ўключае “Стратэгію развіцьця беларускай нацыі” і пачынаецца з яе. “Стратэгія” паступова дапаўняецца на прапановы беларусаў. Мы запрашаем чытачоў дасылаць свае водгукі і прапановы па паляпшэньню зьместу «Стратэгіі» на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com. Рэдакцыя часопіса просіць арганізацыі, якія ў асноўным згодны з палажэньнямі Стратэгіі, далучацца да выкананьня яе задач. На гэты раз мы атрымалі некалькі водгукаў ад дэлегатаў 7-га з'езда беларусаў сьвету, арганізаванага Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” (Мінск, 15-16 ліпеня 2017 года). На 7-м з’ездзе, на якім прысутнічалі 228 дэлегатаў, уключаючы 115 дэлегатаў з 20 замежных краін, быў распаўсюджаны тэкст “Стратэгіі”. У выніковай агульнай рэзалюцыі з’езд заклікае беларускія ўлады “ўлічыць усё вышэйсказанае *(падрабязьней глядзіце агульную рэзалюцыю з’езда)* пры распрацоўцы дзяржаўнай Стратэгіі нацыянальнага

развіцьця і ўмацаваньня незалежнасці ў варунках зменeных геапалітычных выклікаў”. Іншыя матэрыялы з’езда можна прачытаць на сайце: www.zbsb.org

Рэдакцыя падае як кароткую інфармацыю аб 7-м з’ездзе беларусаў сьвету, так і поўны тэкст агульнай рэзалюцыі. У 7-м з’ездзе прынялі ўдзел Валянціна і Юрась Шаўчэнкі, два дэлегаты ад Згуртаваньня беларусаў Канады. У нумары зьмешчаны нататкі аб з’ездзе, напісаныя на просьбу рэдакцыі Валянцінай Шаўчэнка, а таксама яе інтэрв’ю, дадзенае для “Радыё Рацыя” аб яе эмоцыях і ўражаньнях аб з’ездзе.

Часопіс друкуе экспрэс-інтэрв’ю, узяты падчас 7-га з’езда сп. Валянцінай Шаўчэнка у Аксаны Колб, рэдактара газеты “Новы час”.

У раздзеле *“Паэзія”* зьмешчаны вершы Сяргея Панізьніка і Святланы Кабанавай.

Сп. Алег Рудакоў, нястомны і даўні кіраўнік беларускай суполкі ў Іркуцку, даслаў нам інфармацыю-аб’яву аб святкаваньні беларускіх “Дажынак”, там, далёка ў Расіі, і кароткі артыкул журналіста Ольги Липчинской аб тым, як гэта сьвята праходзіла. Рэдакцыя вырашыла падаць гэтыя матэрыялы ў 19-м нумары - дзе б ні жылі беларусы сярод іх заўжды знойдуцца людзі, якія далёка ад радзімы кропля за кропляй падтрымліваюць дух беларускага народа.

У канцы часопіса зьмешчаны календар важнейшых дат гэтага года.

Прыемнага чытаньня.
*Рэдактар часопіса,*
*Пётра Мурзёнак*

*Editorial*

**Piotra Murzionak: 19th issue of the magazine "Culture. Nation", September 2017**
***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, pp.7-8; www.sakavik.net )***

Dear readers!
This year is special for Belarus - 500th anniversary of Belarusian book-printing. In 1517, in Prague, Francishak Skaryna for the first time published a book in the old Belarusian language. 19th issue of the magazine is devoted to this distinctive for the Belarusian nation date. The issue includes materials that are directly attributable to a very important anniversary in the history of Belarus and other traditional articles. On Skaryna topic you may find the essay "Francishak Skaryna – the Person of Belarus European" by Piotra Murzionak, as well as poems and photos sent by Siargei Paniznik in the definition of glorious anniversary.

The 19th issue includes by magazine tradition "Strategy of the Development of the Belarusian nation" and begins with it. "Strategy" is gradually supplemented by Belarusians. We invite readers to send their comments and suggestions to improve the content of the "Strategy" at: chasopis.sakavik@hotmail.com. Editors ask organizations who basically agree with the provisions of the Strategy to join the implementation of its tasks. This time we have got some feedback from the delegates of the 7th Congress of Belarusians of the World, organized by the Association of Belarusians of the World "Batskaushchyna" (Minsk, 15-16 July 2017). The text of the "Strategy" has been circulated at the Congress among 228 delegates, including 115 delegates from 20 foreign countries. The final overall resolution of the Congress calls on the Belarusian authorities to "take into account all of the above (for details see the joint resolution of the Congress) in the development of the State's National Development Strategy and strengthening the independence in a changing of geopolitical challenges." The editors found as need to represent a summary of the Congress, as well as the full text of the overall resolution. Other Congress materials can be found on the website: www.zbsb.org

The 7th Congress of Belarusians of the World was attended by Valentina and Yuri Shauchenka, two delegates from the Belarusian-Canadian Alliance. The magazine

publishes the article, written on our request by Valentina Shauchenka, as well as her interview given to "Radio Ratsyia" about her emotions and impressions of the Congress.

In "Poetry" section you may find poems by Siargei Paniznik and Sviatlana Kabanova.

The magazine publishes express-interview taken during the 7th Congress by Valentina Shauchenka with Aksana Kolb, editor of the newspaper "Novy Chas".

Aleg Rudakou, the tireless and long-time head of the Belarusian Association in Irkutsk, sent us the community information, the announcement of the celebration of the Belarusian "Dazhynki", there, far away in Russia, and a short article by journalist Olga Lipchinsky how this feast was held. The editors decided to submit these materials to the 19th issue - wherever Belarusians lived among them there will always be people who, far from home, drop by drop support the spirit of the Belarusian people.

In the end of the issue, the most important Belarusian calendar dates of this year are presented.

*Wishing you pleasant reading.*
*The magazine Founder and Editor,*
*Piotra Murzionak*

*Дыскусія: “Нацыянальнае будаўніцтва і сучаснасьць. 2015 - 2017”*

## “СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ”

*Праект “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” упершыню апублікаваны на старонках часопіса “КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ” 6 лютага 2016 года. У першапачатковай распрацоўцы праекта прымалі ўдзел: Алена Анісім, Аляксандр Кашо, Пётра Мурзёнак, Алег Трусаў, Ірына Шумская. Рэдакцыя часопіса выказвае шчырую ўдзячнасць сп. А. Астроўскаму, сп. М. Бамбіза, сп. С. Бяспанскаму, сп. З. Гімпелевіч, сп. М. Кеньку, сп. В. Панасоўскай, сп. Ю. Рапецкаму, сп. В. Станішэўскаму, сп. В. Шышко, сп. В. Якавенку, сябрам Асіповіцкай арганізацыі ТБМ за крытычныя заўвагі, дапаўненьні і праўкі па стылю і мове дакумента.*

*Праект “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” быў апублікаваны на старонках нашага часопіса “Культура, Нацыя” (6 лютага 2016 года), газеты “Наша Ніва” (7 лютага, на старонках газеты “НН” было 55 каментараў), газеты “Новы час”, на вэб-сайтах Згуртаваньня беларусаў свету “Бацькаўшчына”, Таварыства беларускай мовы, “Мы – нацыя”, “Наша зямля”, “Пагоня” (Чэхія), Belarus News. Праект абмяркоўваўся беларускай рэдакцыяй Польскага радыё (27 лютага 2016 года) і на “Белсаце” (12 сакавіка 2016 года). Тэкст “Стратэгіі развіцьця беларускай нацыі” быў распаўсюджаны сярод удзельнікаў 7-га з’езда беларусаў сьвету, арганізаванага Згуртаваньнем беларусаў сьвету “Бацькаўшчына” (15-16 ліпеня 2017 года). Сп. А. Трусаў, адзін з аўтараў “Стратэгіі”, прадставіў яе асноўны зьмест на адным з паседжаньняў з’езда. У канчатковай рэзалюцыі 7-га з’езда падкрэслена неабходнасць прыняцьця стратэгіі нацыянальнага развіцьця і ўмацаваньня нацыянальнай незалежнасьці.*

*Адзін з дэлегатаў 7-га з’езда выказаўся супраць нейтральнасьці:**“**Такі стан мела і Украіна, трэба ісьці ў НАТА і разам з Украінай ініцыяваць аб’яднаньне краін Балта-Чарнаморскага рэгіёну”. Прадстаўлены дакумент Стратэгіі адкрыты для далейшай дыскусіі. Рэдакцыя часопіса просіць арганізацыі, якія ў асноўным згодны з палажэньнямі Стратэгіі, далучацца да выкананьня яе задач. Калі ласка, свае каментары і заўвагі дасылайце на адрас: chasopis.sakavik@hotmail.com*

*“Стратэгія развіцьця беларускай нацыі” публікуецца ў кожным нумары у скарочаным варыянце – мэта, задача, падыходы і сродкі для яе рэалізацыі, з дапаўненьнямі, якія з’явіліся за перыяд перад выхадам чарговага нумара часопіса. З абгрунтаваньнем “Стратэгіі” чытачы могуць азнаёміцца ў часопісе “Культура, Нацыя”, №13, сакавік 2016, с. 27-34.*

# «СТРАТЭГІЯ РАЗВІЦЬЦЯ БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫІ»

## *Мэта Стратэгіі*

**Мэтай Стратэгіі з'яўляецца пабудова нейтральнай, нацыянальнай дзяржавы, у якой абсалютна роўныя правы будуць мець прадстаўнікі нацыянальных меншасцяў і прадстаўнікі нацыяўтваральнага этнаса - беларусы.**

## *Задачы, які вынікаюць з характарыстыкі сучаснага стану беларускай нацыі і пастаўленай мэты*

Распаўсюджваць ідэю аб атрыманні краінай нейтральнага стану праз правядзенне рэферэндума і замацаванні гэтага палажэння ў Канстытуцыі РБ.

Падтрымліваць і прапагандаваць, абапіраючыся на гістарычныя факты, ідэю аб этнічнай гістарычнай унікальнасці беларускай народа, развіццё якога істотна адрозніваецца ад развіцця народаў Расіі. Лічыць ідэю аб трыадзінстве усходнеславянскіх народаў (Беларусі, Расіі, Украіны) не адпавядаючай гістарычнай праўдзе і шкоднай.

Падтрымліваць ідэю пераемнасці ў гістарычным развіцці беларускай дзяржаўнасці. Дабівацца сусветнага прызнання выключнай ці роўнай ролі беларускага народа ў развіцці Вялікага Княства Літоўскага - вялікай еўрапейскай дзяржавы мінулага, на тэрыторыі якой сёння пражываюць людзі сучасных незалежных краін, Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Украіны і Расіі. Першыя княствы на тэрыторыі Беларусі, Вялікае Княства Літоўскае, станаўленне (БНР, БССР) і здабыццё незалежнасці Рэспублікі Беларусь, - усе гэтыя перыяды з’яўляюцца састаўнымі часткамі нашай нацыянальнай гісторыі. Выцісканне і прыніжэнне любога гістарычнага перыяда не адпавядае інтарэсам нацыі.

Для папярэджання пагрозы страты незалежнасці і суверэнітэту Рэспублікі Беларусь праз ваенныя, эканамічныя ці культурныя механізмы супрацьстаяць ідэалогіі “русского мира” і н’юеўразізма, якія ўяўляюць сабой абноўленыя формы імперскага расійскага шавінізму.

Не падтрымліваць будаўніцтва цывільнай і рускамоўнай дзяржавы, і адначасова працягваць пошук актыўнага ўзаемадзеяння з мясцовымі ўладамі ў рамках законаў, як індывідуальна, так і арганізаванымі групамі грамадзян, для паляпшэння сітуацыі ў адносінах да мовы (садкі, класы, школы, дакументацыя), гісторыі (назвы вуліц, памятныя знакі) і па іншых пытаннях.

На сучасным этапе праводзіць асветніцкую дзейнасць сярод насельніцтва ў першую чаргу ў галіне гісторыі, элітарнай і мас-культуры і традыцый беларускага народа (Полацкая дзяржава, ВКЛ, БНР, БССР, адраджэнне 90-х), не збаўляючы высілкаў па вызваленні беларускай мовы з прыгнечанага стану. Дабівацца раўнапраўнага, непрымусовага ўжывання беларускай мовы ў дзяржаве, стварэння нарматыўнай базы на мове тытульнай нацыі.

Патрабаваць выкананне “Закона аб мовах” і стымуляваць выкарыстанне Мовы ва ўсіх сферах грамадскага і культурнага жыцця, ужываючы ўсе магчымыя падыходы і сродкі, прадстаўленыя ў “Стратэгіі развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі” (2012), уключаючы: адкрыццё беларускіх нацыянальных універсітэтаў, правядзенне лекцый і ўрокаў вучням і студэнтам на беларускай мове, заахвочванне грамадзян Беларусі аддаваць дзяцей у беларускія садкі і школы, мовазнаўчую і інфармацыйную падтрымку беларускай рэкламы прадуктаў і тавараў, заахвочванне рэлігійных абшчын розных канфесій да правядзення багаслужбы на беларускай мове, заахвочванне грамадскіх арганізацый нацыянальных меншасцяў да вывучэння беларускай мовы і гісторыі, заахвочванне грамадзян Беларусі і адпаведных рытуальных агенцтваў ужываць беларускую мову на надмагільных надпісах.

Стварыць агульны нацыянальны інфармацыйны канал і шэраг інфармацыйных пляцовак (газеты, часопісы, радыё, тэлебачанне), пабудаваных па прынцыпу грамадскіх СМІ, на якія не змогуць ўплываць і ціснуць ідэалагічныя структуры аўтарытарнага рэжыму.

Даводзіць грамадству інфармацыю пра ўсе станоўчыя праяўленні беларускасці і рэагаваць на ўсе без выключэння праявы этнацыду беларусаў. Шанаваць і развіваць гонар за дасягненні, якія мае беларускі народ сёння.

Папулярызаваць нацыянальных дзеячаў, зрабіўшых найбольшы ўклад у развіццё нацыі: І. Насовіч, Н. Орда, В. Дунін-Марцінкевіч, С. Манюшка, К. Каліноўскі, Ф. Багушэвіч, Я. Карскі, М. Доўнар-Запольскі, Б. Эпімах-Шыпіла, І. Луцкевіч, Я. Купала, Я. Колас, М. Гарэцкі, У. Галубок, В. Ластоўскі, Я. Лёсік, А. Луцкевіч, М.

Багдановіч, А. Чарвякоў, Б. Тарашкевіч, Р. Шырма, Г. Цітовіч, Л. Геніюш, М. Ермаловіч, В. Быкаў, А. Адамовіч, У. Караткевіч, М. Крукоўскі, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, У. Мулявін, і іншых беларускіх дзеячаў.

Папулярызаваць і адзначаць нацыянальныя святы, якія пакуль што не значацца ў афіцыйным календары: 25 сакавіка – Дзень Волі, першае абвяшчэнне незалежнасці краіны, Беларускай Народнай Рэспублікі; 15 ліпеня – Грунвальдская бітва; 27 ліпеня – Дзень незалежнасці Рэспублікі Беларусь; 8 верасня – Дзень беларускай вайсковай славы, 27 лістапада – Слуцкі збройны чын. Усталяваць дзень памяці ахвяр войнаў і палітычных рэпрэсій. Распачаць пошук і дагляд помнікаў зніклым беларусам на радзіме і ў замежжы. Перахаваць прах М. Багдановіча у Беларусі.

## *Падыходы і сродкі рэалізацыі*

1. У сваіх адносінах паміж людзьмі, якія будуць падтрымліваць рэалізацыю “Стратэгіі развіцця беларускай нацыі” пажадана прытрымлівацца “Кодэкса гонару”: лічыць, што ўдзел у будаўніцтве нацыянальнай дзяржавы гэта вялікі гонар для беларусаў і прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў; праяўляць узаемапавагу і падтрымку; крытычна і абгрунтавана вясці спрэчкі, не дапускаючы пры гэтым абраз і спасылак на неправераныя факты; быць талерантнымі да выказванняў апанентаў; максімальна ўжываць беларускую мову дома і па-за домам; прытрымлівацца адзіных падыходаў пры выкананні задач Стратэгіі; пазбягаць фракцыйнасці - пабудаваць нацыянальную дзяржаву можна толькі праз адзінства людзей, незалежна ад таго, прыхільнікамі якіх партый, рухаў, рэлігійных і іншых плыняў яны з’яўляюцца.

2. Давесці змест Стратэгіі да максімальнай колькасці грамадзян РБ. Пажадана каб тэкст Стратэгіі мела кожная сям’я.

3. Рэалізацыя Стратэгіі разлічана на бліжэйшыя два дзесяцігоддзі ў незалежнасці ад магчымых змен унутранага ці знешняга характару (рэвалюцыя, агрэсія ці іншае).

4. Мець на ўвазе, што для рэалізацыі Стратэгіі больш важным з’яўляецца выхаванне і падтрымка адпаведнага нацыянальна-свядомага настрою ў грамадстве ў доўгатэрміновай перспектыве, чым нават наяўнасць ці адсутнасць матэрыяльных магчымасцяў.

5. Паступовае пашырэнне кола нацыянальна свядомых грамадзян РБ праз асвету і правядзенне пастаянных і рэгулярных акцый, скіраванных на выкананне пастаўленых задач, з удзелам адбудаванай адкрытай грамадзянскай супольнасці як унутры краіны, так і за яе межамі.

6. Для вырашэння задач стратэгіі, ва ўмовах абмежаванага доступу да СМІ і адсутнасці дапамогі з боку дзяржавы, выкарыстоўваць усе наяўныя і шукаць новыя сілы і сродкі беларускага грамадства, прыхільных да нацыянальнай ідэі грамадзян РБ, спонсараў, інтэрнэт-рэсурсы, незалежныя і дзяржаўныя СМІ.

7. Шукаць магчымасці лабіравання нацыянальных інтарэсаў шляхам народнай дыпламатыі і праз спробы наладжвання дыялогу з тымі супрацоўнікамі праўладных структур і колаў, якія падзяляюць акрэсленую сістэму каштоўнасцяў.

*Discussion “The Nation Building and Modernity – 2015-2017”*

**“Strategy of the Belarusian Nation Development”**(updated up to September 30, 2017). ***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, pp.9-13;*** www.sakavik.net ***)***

“The Strategy of the Belarusian Nation Development” was firstly published in the magazine “CULTURE, NATION” in March 2016 (issue 13, pp. 27-34). In every issue of the magazine we provide updated version of “The Strategy”. The aim of “the Strategy” is to build a neutral, national state in which absolutely equal rights will have representatives of national minorities and representatives of predominant ethnicity - Belarusians. The Strategy includes tasks, approaches and resources to realize the national idea. We are grateful to all people participating in the discussion. Naturally, the magazine is waiting for new comments, so that as much as possible to improve “the Strategy”.

*Сёмы з’езд беларусаў свету (15–16 ліпеня 2017 года, Мінск)*

**Інфармацыя пра Сёмы з’езд беларусаў свету**

15–16 ліпеня ў Мінску прайшоў Сёмы з’езд беларусаў свету Міжнароднай грамадскай арганізацыі “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”, у якім узялі ўдзел 228 дэлегатаў, з якіх 115 дэлегатаў – прадстаўнікі беларускага замежжа з 20 краін. На з’ездзе былі агучаныя вітанні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларускага Інстытута Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, ФНКА “Беларусы Расіі”, часопіса “Культура. Нацыя” і інш.

З дакладамі па асноўнай тэме З’езда “Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця” – выступілі доктар гістарычных навук, супрацоўнік Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Валянцін Голубеў, кіраўнік МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” Алена Макоўская, кандыдат гістарычных навук, намеснік дырэктара Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва Наталля Гардзіенка і доктар гістарычных навук, старшыня Беларускага гістарычнага таварыства (Польшча) Алег Латышонак.

Са справаздачным дакладам па дзейнасці МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” выступіла Старшыня Рады Ніна Шылдоўская.

У другі дзень З’езда праца ўдзельнікаў была арганізаваная па секцыях: “Беларуская дзяржаўнасць: станаўленне, рэаліі, перспектывы”, “Беларуская дыяспара і Беларусь: стратэгія ўзаемадзеяння ў сучасных умовах” і “Беларуская мова і культура – аснова нацыянальнай дзяржаўнасці”. Праца секцый насіла больш практычны характар у межах акрэсленых тэмаў, а высновы, зробленыя падчас працы секцый, былі ўлічаныя ў выніковай рэзалюцыі.

Пасля зацвярджэння выніковых дакументаў адбыліся выбары кіруючых органаў МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”: кіраўніком Згуртавання абраная Алена Макоўская, а ў

склад Вялікай Рады ўвайшло па 50 прадстаўнікоў з Беларусі і суполак беларускага замежжа. На першым пасяджэнні новаабранай Вялікай Рады старшынёй Рады абраная Ніна Шыдлоўская.

Вынікам двухдзённай працы дэлегатаў стала прыняцце дакументаў, якія актуалізуюць агульнанацыянальныя пытанні. Праблемы, узнятыя ў гэтых дакументах, тычацца кожнага беларуса, незалежна ад месца пражывання і сферы дзейнасці. Выніковыя дакументы, прынятыя З’ездам:

- выніковая рэзалюцыя Сёмага з’езда беларусаў свету МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” “Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця”;

- рэзалюцыя “Справа захавання і ўмацавання незалежнасці Беларусі – справа ўсіх беларусаў”;

- рэзалюцыя “Беларуская мова – аснова беларускай нацыі і падмурак дзяржаўнасці Беларусі”;
- прапановы да дзяржаўнай стратэгіі “Беларусь – дыяспара” на перыяд да 2025 года;
- зварот Сёмага з’езда беларусаў свету МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, да Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, да Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь “Аб забеспячэнні прававых, арганізацыйных, фінансавых і іншых умоў для развіцця стратэгічнага супрацоўніцтва Рэспублікі Беларусь і беларусаў замежжа”;
- зварот да кіраўніка гарадской акругі г. Калінінграда “Аб наданні імя Францішка Скарыны вуліцы ў г. Калінінградзе”;
- зварот да мітрапаліта Кандрусевіча і ўладаў сталіцы аб размяшчэнні парэшткаў княгіні Магдалены Раздзівіл у Чырвоным касцёле ў Мінску
- вітанне Сёмага з’езда беларусаў свету МГА “Бацькаўшчына” дэлегатам Шостага з’езда Сусветнага Кангрэса татараў.

**Выніковая рэзалюцыя Сёмага з’езда беларусаў свету МГА “ЗБС “Бацькаўшчына” (***15–16 ліпеня 2017 г., Мінск)*

**“Беларуская нацыя, беларуская дзяржаўнасць, беларускае замежжа – выклікі сучаснасці і стратэгія развіцця”**

Мы, дэлегаты Сёмага з’езда беларусаў свету, незалежна ад месца пражывання, веравызнання і палітычных поглядаў, падводзячы вынікі абмеркавання новых выклікаў, якія паўсталі перад беларускай нацыяй, заяўляем:

- У сучасных умовах Беларусь сутыкнулася з новымі геапалітычнымі выклікамі, супрацьстаяць якім можна толькі прызнаючы незалежнасць, нацыянальную культуру і беларускую мову асноўнымі дзяржаваўтваральнымі фактарамі.
- У эпоху імклівай глабалізацыі нацыянальныя мовы маюць патрэбу ў пастаяннай падтрымцы з боку дзяржавы і грамадства. Беларуская мова, вынесеная на ўзбочыну ў адукацыйнай, справаводчай, інфармацыйнай сферах, дагэтуль не мае паўнавартаснага дзяржаўнага статусу, што ставіць пад пагрозу існаванне ўнікальнай беларускай культуры, супрацьдзейнічае захаванню нацыянальнай ідэнтычнасці беларусаў замежжа. Выказваем глыбокую занепакоенасць наяўнай сітуацыяй і прапануем распрацаваць пакрокавую стратэгію падтрымкі беларускай мовы для вяртання яе ў шырокі ўжытак у сацыяльнай, адукацыйнай, эканамічнай, дыпламатычнай і іншых сферах. Звяртаем увагу на недастатковую прадстаўленасць спадчыны беларусаў замежжа ў навуковых і адукацыйных праграмах, што вельмі негатыўна адбіваецца на фармаванні цэльнасці нацыі, якасці стасункаў дзяржавы і дыяспары.
- Сталае супрацоўніцтва з дыяспарай неабходнае для культурнага, сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі. Трывалыя сувязі з беларусамі замежжа розных прафесій – прадстаўнікамі бізнесу, навукоўцамі, прафесурай, палітыкамі, грамадскімі і культурнымі дзеячамі, супрацоўнікамі недзяржаўных арганізацый – дазволяць прыцягваць замежны досвед у сацыяльную, адукацыйную і культурную

сферы, павялічаць прыток замежных інвестыцый у нацыянальную эканоміку, становўча паўплываюць на ўкараненне інавацыйных тэхналогій і павышэнне інтэлектуальнага патэнцыялу Беларусі, а таксама забяспечаць уключанасць выхадцаў з Беларусі ў агульнанацыянальную прастору.

- Пасля прыняцця заканадаўства аб беларусах замежжа стала відавочнай неабходнасць распрацоўкі канкрэтных захадаў да паляпшэння ўзаемадзеяння паміж Беларуссю і дыяспарай, найперш – Канцэпцыі супрацоўніцтва дзяржавы і беларусаў замежжа, стварэння дзяржаўных інстытуцый і ведамстваў для сістэмнай працы з дыяспарай.
- Мы выступаем за дэмакратычныя свабодныя выбары і адмову ад пераследу па палітычных матывах.

Заклікаем беларускія ўлады ўлічыць усё вышэйсказанае пры распрацоўцы дзяржаўнай Стратэгіі нацыянальнага развіцця і ўмацавання незалежнасці ў варунках зменёных геапалітычных выклікаў.

*Іншыя матэрыялы з’езда можна прачытаць на сайце: www.zbsb.org*

**Information about 7th Congress of Belarusians of the World and the General Resolution of Congress (July 15-16, 2017; Minsk)**
***(“CULTURE.NATION”, September 2017, issue 19, pp.14-17;* www.sakavik.net*)***

**Валянціна Шаўчэнка: Нататкі з Бацькаўшчыны**

Адразу хачу папярэдзіць дарагога чытача, які, спадзяюся, дачытае гэтыя нататкі да канца, што яны адлюстроўваюць мае эмацыйныя ўражаньні ад таго, што адбылося ў гэтым ліпені ў Беларусі, і не маюць ніякіх прэтэнзій на глыбокі аналіз ці на аб"ектыўнасць. Трымаючы гэта ў думках - пачынаем.

2017 год для нас быў адметным, таму што мы з маім мужам Юркам былі абраныя прадстаўляць Згуртаваньне Беларусаў Канады на Сёмым з'ездзе беларусаў сьвету. Адразу ўзгадала Міколу і Марыю Ганько, іх расказы пра Першы зьезд. Я адчувала адказнасьць і крыху хвалявалася, таму сваю прамову падрахтавала яшчэ ў Таронта. Пісала шчыра пра тое, што мяне турбуе і хвалюе, пра тое, якой мне бачыцца сітуацыя ў Беларусі, як наша арганізацыя ставіцца да таго, што адбываецца на радзіме. Пісала пра “Яваровых людзей”, бо вельмі хацелася, каб імя і гісторыя нашага гурта прагучалі менавіта дома. Карацей - падрыхтавалася!



Валянціна і Юрась Шаўчэнкі са Станіславам Шушкевічам

Дзень 15-га ліпеня пачынаўся выдатна - не вельмі гарачае надвор’е, дзьме лёгкі ветры, цудоўны настрой. Пад'ехалі да месца правядзеньня зьезду і адразу сустрэліся з Паўлам Севярынцам. Ён мяне пазнаў, ад яго шчырай усьмешкі на душы пацяплела, адчулі сябе сярод сваіх.

Падыходзім да будынку - на дзьвярах стаяць даволі суровыя мужчыны, усё сур'ёзна; зарэгістраваліся і атрымалі цудоўныя падарункі, вакол шмат людзей, амаль што ўсе размаўляюць па-беларуску, абдымаюцца, прадаюцца кнігі, сувеніры, вышыванкі, яшчэ нешта.

У вочы кідаецца тое, што частка людзей нібыта прыехалі сюды з мінулага - за 20 гадоў у Канадзе я ўжо і забыла пра існваньне тыпажа райкомаўскіх працаўнікоў. Быццам бы і не старыя людзі, але ж такое адчуваньне, што яны ўсе гэтыя гады праляжалі недзе ў валізках з нафталінам, потым іх дасталі, трохі абтраслі і яны прыехалі на сустрэчу. Падаецца, што з 21-га стагодддзя мяне адкінулі ў канец 20-га. Потым высьветлілася, што гэта былі дэлегацыі з былых савецкіх рэспублік, але ж мне здаецца , што слова "былых" тут не працуе.

У натоўпе заўважаю Ніну Шыдлоўскую і Алену Макоўскую - дарагія мае, як жа я сумавала па вас! Хутка абдымаемся, я разумею, што дзяўчатам трэба працаваць і зараз не час для размоваў, адпускаю. Гледзячы на Ніну, у галаву прыходзяць радкі, напісаныя Юркам на юбілей нашай старэйшай дачкі: "В твоей фигурке воробьиной я узнаю черты орла". Колькі мужнасьці у гэтай маленькай жанчыны, колькі сілы!

У зале ўжо поўна людзей. Насупраць трыбуны стаіць нейкі малады чалавек. Займаю тры крэслы ў другім радзе, і прашу прыгледзіць за нашымі рэчамі, калі ён не збіраецца адыходзіць. Ён чамусьці здзіўляецца, але ж пагаджаецца. Перад пачаткам заходжу ў залю зноў і тут высьвятляецца, што мы сядзім як раз за афіцыйнымі асобамі на чале з міністрам замежных спраў і гэты малады чалавек быў з іх групы. Вось нечаканка дык нечаканка. Ну нічога, пасядзім, нават цікава.

Далей падзеі неяк зьмяшаліся.

Адно з самых цікавых назіраньняў - абвяшчаюць гімн, усе ўстаюць і я з жахам разумею, што прыйдзецца стаяць пад чужы, зусім не мой гімн, не маёй Беларусі. Пачынаецца музыка, але ж гэта не гімн, гэта нешта іншае! Афіцыйныя асобы стаяць і, як мне здаецца, не ведаюць, што рабіць - сесьці ўжо нельга, стаяць неяк дзіўна. Я пачынаю ўсьміхацца і глядзець навокал - усе стаяць, як быццам так і трэба, глядзяць чамусьці ў пол. Не, вось яшчэ адна жанчына азіраецца па баках - сустрэліся вачыма,

усьміхнуліся адна адной. Потым пазнаёміліся і доўга сьмяяліся над гэтым - гэта была Аксана Клоб, галоўны рэдактар адной з найлепшых беларускіх газет "Новы Час". Яна і сказала, што гучала музыка з Полацкага сшытку.

У выступах дэлегатаў словы аб супрацоўніцтве з дзяржавай паўтараюцца зноў і зноў. Гэта зьдзіўляе, таму што яны ідуць не толькі ад афіцыйных асоб, але ж ад дэлегатаў з’езду. Асабліва зьдзівіў выступ Сакратара інфармацыі БНР Алеся Чайчыца - ні слова пра палітычнае становішча ў сучаснай Беларусі, больш разважаньні пра супрацоўніцтва з дзяржавай. Пачынаю разумець, што мая падрыхтаваная прамова не ўпісываецца ў агульны настрой.

Атрымліваю ліст ад брата Сьвятаслава Логіна, што ён затрыманы на ўездзе ў Беларусь у памежным пункце пропуску “Новая Гута”. Вырашаю, што скажу аб гэтым з трыбуны. У час прамовы зьвяртаюся менавіта да Макея. Ён чырванее, нешта піша.

Прашу, каб у залю пазвалі Ніну Шыдлоўскую. І зноў зьвяртаюся да Макея:

*Самае галоўнае цяпер для мяне — гэта тое, што ўсе ўдзельнікі справы «Белага легіёну» ўжо на волі. І ў гэтым вялікая заслуга старшыні Рады Згуртаваньня Ніны Шыдлоўскай. Патрыёт — не злачынца. Ніна, дзякуй вялікі за тое, што тыя мужчыны, якімі мусіць ганарыцца кожная краіна, цяпер могуць абняць сваіх жонак, матуль і дзяцей».* Чую воплескі - толькі дзеля гэтага варта было прыехаць, каб пабачыць, як Макей слухае гэтыя апладысменты! Нічога, хай слухае далей:

*На жаль, як нам бачыцца з замежжа, не назіраецца ніякага руху ў бок дэмакратыі, не існуе механізму дэмакратычнай зьмены ўлады і пераемнасці палітычнай эліты. Стан беларускай мовы, якая мусіць быць дзяржаўнай у поўным сэнсе гэтага слова, вельмі сумны”.*

Мая заява аб тым, што ва ўмовах, пакуль у Беларусі не пачнуцца дэмакратычныя трансфармацыі і становішча беларускай мовы не палепшыцца, канадскія суайчыннікі не бачаць магчымым супрацоўніцтва з афіцыйнымі беларускімі ўладамі, падштурхнула Макея зноў узяць мікрафон і яшчэ раз зьвярнуцца да ўсіх, але ж гэта ўжо нічога не мяняла.

Суровыя мужчыны, якія ахоўваюць з’езд - прадстаўнікі так званага Белага Легіёну. Падыходзяць да мяне, абдымаюць, дзякуюць за выступ. Падыходзяць іх жонкі і родныя, таксама абдымаюць, кажуць цудоўныя словы. Успамінаюць наш пікет у

падтрымку патрыётаў, які мы зарганізавалі ў Таронта за некалькі тыдняў да прыезду ў Беларусь, кажуць, як ім гэта важна – менавіта такія вось акцыі салідарнасці.

Падыходзіць Алесь Лагвінец, мы знаёмімся, ён кажа, што ў захапленьні ад маёй прамовы. Шчыра не магу зразумець, чаму такая рэакцыя на самыя простыя рэчы. Насустрач ідзе Станіслаў Шушкевіч, падыходзіць, працягвае руку. Я пытаю, ці можна зрабіць здымак разам з ім. Адказвае, што для яго гэта гонар. Адчуваю сабе неяк няёмка, таму што не лічу, што заслугоўваю такіх да сябе адносін.

Зьдзівіла пытаньне, ці не баюся я публічна агучваць сваю палітычную пазіцыю, ці не страшна мне. Не, не страшна і не баюся. Некаторыя людзі казалі, што для іх мае словы былі як глыток чыстага паветра. Вось тады я зразумела, што мела на ўвазе тая жынчына, якая на мае словы аб тым, што ў Беларусі цяжка дыхаць ад бруднага паветра ціха адказала - у Беларусі проста цяжка дыхаць ...

На вуліцы падыходзяць журналісты розных сродкаў інфармацыі Ад хваляваньня не заўважаю, як даю некалькі інтэрвью. Запомнілася адно - беларускаму тэлебачаньню. Разумею, што тое, што кажу, ніколі не пакажуць па дзяржаўным каналах, але ж усё роўна кажу тое, што думаю, можа ў архівах застанецца. Праз некалькі хвілін прыпыняемся. Аб чым мы размаўлялі без камеры пісаць не буду, бо людзям яшчэ жыць і працаваць.

У другой палове дня ўразілі выступы Андрэя Стрыжака і Паўла Севярынца - урэшце пачула словы, якія супадаюць з маім бачаньнем сітуацыі ў Беларусі. Гэтыя хлопцы спакойна і ўпэўнена робяць сваю справу, і гэта дае надзею на зьмены.

На жаль, яскравы выступ доктара гістарычных навук, прафесара Леаніда Лыча быў прыпынены вядучым з нагоды парушэньня рэгламенту. Мне здаецца, што ён мусіў выступаць столькі, колькі пажадае, тым больш, што людзі прасілі яго прадоўжыць. Яле гэты прыгожы сталы чалавек сьціпла адзначыў, што паважае рэгламент, і сыйшоў з трыбуны. Вельмі шкада, не кожны дзень можна пачуць такія думкі і развагі.

Раздаецца тэлефонны званок з пытаньнем, як зьвязацца з Уладыкам, бо яму дазволілі ўезд у Беларусь. Перамога!

Увечары - адно з галоўных адкрыцьцёў з’езда - група “Рэлікт”. Калі яны сьпявалі “Ой рана на Івана” - душа адлятала ў нябёсы! Даўно ўжо не чула такіх прафесійных выканаўцаў, голас саліста ахутвае сваім тэмбрам. Сьпяваць пасьля іх мне было цяжка, але ж пасьля пачула ад гэтых хлопцаў такія цудоўныя словы - дзякуй ім!

Атрымліваю віншавальныя лісты з Канады і Амерыкі з нагоды нашага удзелу ў з’ездзе. Лічу, што Згуртаваньне баларусаў Канады прагучала даволі гучна менавітаў ў Беларусі, ганаруся тым, што наша пазіцыя атрымала такую ўвагу. На жаль, ніводнага слова падтрымкі ад старшыні ЗБК.

Раніцай наступнага дня спазняемся, прыязджаем а адзінаццатай гадзіне. Ужо не пасьпяваем паслухаць і падтрымаць Вольгу Іпатаву. Але ж сустракаемся з С. Шушкевічам, ён дарыць мне сваю кнігу з цудоўнымі словамі падзякі. Высьвятляецца, што я нічога не ведаю аб тым, што пішуць газеты аб маім выступе, трэба будзе пачытаць і паглядзець, калі будзе час.

Сустракаемся з Вячаславам Сіўчыкам, ён прапануе падтрымаць распрацаваныя ім, Паўлам Севярынцам і Алесем Лагвінцом папраўкі ў выніковую рэзалюцыю з’езду. Я згодна з усімі папраўкамі, яны тычацца прысутнасьці замежных войскаў на тэрыторыі Беларусі, палітычных вязьняў і дэмакратычных выбараў. Гучаць яны даволі жорстка, але ж абсалютна правільна.

І вось - тое, дзеля чаго мы сабраліся - прыняцьце выніковай рэзалюцыі. Зьезд галасуе за тое, каб больш нікому слова для абмяркаваньня не давалі. Зачытваюцца ўсе папраўкі, мне яны не падаюцца такімі ўжо значнымі, але ж усе яны прымаюцца. Я чакаю, калі агучаць папраўку групы Сіўчыка. Нечакана вядучы кажа, што іх папраўка не можы быць агучанай, таму што падавалася з парушэньнем рэгламенту. Сіўчык спрабуе ўзяць слова, але ж усе гэтыя людзі з мінулага пачынаюць крычаць, каб слова яму не давалі, давайце далей, трэба сьпяшацца, так ніколі не скончым, не трэба ўцягвацца ў палітыку, і гэтак далей. Сіўчык настойвае, вядучы яго прыпыняе. Я разумею, што трэба штосьці рабіць і пачынаю гучна патрабаваць, каб яму далі слова. Голас у мяне, дзякуй Богу, моцны, мяне падтрымліваюць Юрка і яшчэ чалавек дзесяць у зале. Мы - у другім радзе, нас бачна і добра чутна. Кажу, што маю права ведаць, аб чым папраўка.

Пытаю, ці вядучы не даверае з’езду, хай з’езд вырашыць, ці даваць слова Сіўчыку. Вядучы громка кажа, што я замінаю працы з’езду. Нічога, на некаторых паседжаньнях Галоўнай Управы ЗБК і не такое было, здолеем і гэта. Адказваю, што гэта ён замінае, значна прасьцей даць слова, чым спрачацца, і прашу ставіць пытаньне на галасаваньне. У выніку з’езд галасуе за тое, каб Сіўчыку далі слова. Пасьля яго выступу я прапаную ставіць папраўку на галасаваньне. Два з трох пунктаў праходзяць у выніковую рэзалюцыю, хлопцы з гэтым пагаджаюцца, і вось як яны гучаць:

*Мы выступаем за дэмакратычныя свабодныя выбары і адмову ад пераследу па палітычных матывах.*

Яшчэ адна перамога! Трэба было бачыць твары прадстаўнікоў пра-дзяржаўных арганізацый былых савецкіх рэспублік. А тут яшчэ Юрка, у час выбараў у Вялікую Раду, голасна спытаў у чалавека з медалем Герой Расіі - ад каго абіраюць прадстаўніка Крыма - ад Расіі ці ад Украіны. Было адчуваньне, што калі б маглі, то пабілі б.

Вечарам другога дня - банкет. Мы, задаволеныя вынікамі з’езду, нейкім чынам апынуліся ў групе "радыкалаў" і цудоўна правялі вечар, сьпявалі беларускія песьні і пад іх жа танчылі, пазнаёміліся бліжэй з цудоўнай моладзьдзю і на развітаньне прасьпявалі "Магутны Божа". Гімн ліўся у вячэрнім паветры Мінска, побач стаялі маладыя дзяўчаты і хлопцы - надзея новай Беларусі, і здавалася, што гэты вечар ніколі не скончыцца. Жыве Беларусь!!!

P. S. Дзівіла мама, якая заўсёды ўстрымлівалася ад палітычных каментарыяў. На развітаньне яна сказала, што ганарыцца сваёй дачкой і крэпка абняла. Як жа я цябе люблю, мая матуля.

P. S. S. Калі ад’язджалі і праходзілі ў аэрапорце праз зялены карыдор, мы былі адзіныя, каго затрымалі і пер态трэслі ўсе рэчы, пералічылі ўсе грошы, нават праверылі ці належаць нам нашыя лекі. Дасюль не ведаю, ці гэта было выпадкова, ці не.

**Valiantsina Shauchenka: My Impressions on Homeland *(7th Congress of Belarusians in Minsk, July 15-16, 2017)***

***(“CULTURE.NATION”, September 2017, issue 19, pp.18-27;* www.sakavik.net*)***

The 7th Congress of Belarusians of the World was attended by Valentina and Yuri Shauchenka, two delegates from the Belarusian-Canadian Alliance. The magazine publishes the article, written on our request by Valentina Shauchenka, as well as her interview given to "Radio Ratsyia" about her emotions and impressions of the Congress.

**Інтэрв’ю Яўгеніі Бурштын з Валянцінай Шаўчэнка, дэлегатам 7-га з’езда беларусаў сьвету ад Канады**

*Яўгенія Бурштын, “Радыё Рацыя”, 19 ліпеня 2017 года*

**Валянціна Шаўчэнка: Сяброўка – карэнная канадка – сустракае мяне словамі “Добрай раніцы!”**




**Сярод усіх прамоў дэлегатаў VII з’езду беларусаў свету, бадай, самай яскравай і запамінальнай стала прамова прадстаўніцы Згуртавання беларусаў Канады.**

Як ужо паведамляла “ЕўраБеларусь”, у мінулыя выхадныя ў Мінску праходзіў Сёмы з’езд беларусаў свету, арганізаваны МГА Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”. З’езд сабраў суайчыннікаў з 21 краіны самых розных поглядаў. Адметнасцю форума стала прысутнасць на ім міністра замежных справаў Беларусі **Уладзіміра Макея**, а таксама некаторых былых фігурантаў “справы патрыётаў”.

Сярод дзясяткаў прамоў дэлегатаў, бадай, самай яскравай і запамінальнай стала прамова прадстаўніцы Згуртавання беларусаў Канады **Валянціны Шаўчэнкі**. Спадарыня Валянціна наўпрост заявіла, што ва ўмовах, пакуль у Беларусі не пачнуцца дэмакратычныя трансфармацыі і становішча беларускай мовы не палепшыцца, канадскія суайчыннікі не бачаць магчымым супрацоўніцтва з афіцыйнымі беларускімі ўладамі.

*“На жаль, як нам бачыцца з замежжа, не назіраецца ніякага руху ў бок дэмакратыі, не існуе механізму дэмакратычнай змены ўлады і пераемнасці палітычнай эліты. Стан беларускай мовы, якая мусіць быць дзяржаўнай у поўным сэнсе гэтага слова, вельмі сумны”,* – прамовіла яна, выступаючы на з’ездзе.

*“У такіх умовах асноўнай і адзінай формай узаемадзеяння Згуртавання беларусаў Канады і Беларусі сёння ёсць падтрымка грамадскіх арганізацый, якія працуюць на развіццё беларускай мовы і культуры, акцыі салідарнасці з тымі, хто абсалютна легітымна патрабуе зменаў. Таму што патрыётамі ёсць не тыя, хто моўчкі пагаджаецца з усім, што адбываецца ў краіне. Патрыётам ёсць той, хто хоча зменаў да лепшага, у каго душа баліць за родную мову, культуру і гісторыю”,* – патлумачыла Валянціна Шаўчэнка.

Служба інфармацыі “ЕўраБеларусі” спытала ў дэлегаткі, ці ўсе беларусы Канады падзяляюць агучаную ёй пазіцыю.

– Гэта пазіцыя Згуртавання беларусаў Канады – ідэалы 25 сакавіка (25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць Беларускай народнай рэспублікі. – **ЕўраБеларусь**.). Я падзяляю гэтую пазіцыю. У маім выступе не было заклікаў раз’яднання, была канстатацыя факта: што мусіць змяніцца прававая сістэма, з’явіцца дэмакратычная перадача палітычнай улады, шмат чаго яшчэ павінна змяніцца. Перш за ўсё Беларусь мусіць быць бел-чырвона-белай.

**– Міністр Макей у сваім выступе на з’ездзе казаў шмат быццам бы правільных рэчаў. Як вы ацэньваеце яго словы?**

– Пакуль я бачу, што гэта толькі словы. Таму што калі ў Навагрудку я пабачыла на расейскай мове надпіс «Приглашайте своих друзей в Великое княжество Литовское», я зразумела, што гэта ўсё ідзе зверху. Калі б адтуль рабіліся сур’ёзныя крокі па паляпшэнні сітуацыі з беларускай мовай, беларускай культурай, то, мне здаецца, і гэты надпіс быў бы на беларускай мове. Мне цяжка сказаць, бо я не адсочваю сітуацыю ў Беларусі ў гэтым плане, я больш сачу за сітуацыяй з палітычнымі вязнямі, з тымі хлопчыкамі, якія за кратамі. Мы стараемся дапамагчы ім, як можам, у тым ліку матэрыяльна. А тое, што робіцца ўрадам – у мяне вельмі дрэнны досвед працы з урадам, хоць са мной спрабавалі наладзіць кантакты нават у беларускай амбасадзе ў Канадзе. Я пакуль што не бачу, каб нешта рабілася. Пакуль што я бачу толькі словы. Я магу памыляцца, бо, як я падкрэсліла ў сваім дакладзе, гэта погляд з замежжа. Але ж мае размовы з людзьмі паказваюць, што становішча пакуль не вельмі лёгкае.

**– Як вам удаецца на такой адлегласці падтрымліваць беларускіх палітвязняў?**

– Мы заўсёды ладзім мітынгі, пікеты. Месяц таму мы зарганізавалі пікет “Патрыёт – не злачынца!” у цэнтры Таронта. 25 сакавіка ў нас таксама была імпрэза, і нават канадскае тэлебачанне нас здымала і паказвала па гарадскіх навінах. Там мы расказалі, што адбываецца ў Беларусі, што ёсць палітычныя вязні. Мы стараемся данесці да людзей і ўраду, што адбываецца ў краіне – і добрае, і нядобрае. Але ж галоўнае для нас – гэта палітычныя пытанні, палітычная воля кіраўніцтва нешта змяніць.

**– Чым увогуле жывуць беларусы Канады?**

– Мы жывем у Канадзе ўжо 20 гадоў. Я паводле адукацыі матэматык-праграміст, муж – інжынер-электрамеханік. Я працую па спецыяльнасці, муж – не, але працуе добра. У нас двое ўжо даволі дарослых дзяцей. Мы рабілі вельмі шмат беларускіх імпрэз – як культурных, так і палітычных, і яны досыць доўга на іх хадзілі. У нас увогуле адбываецца шмат культурных падзей. У нас ёсць цудоўны фальклорны гурт “Яваровы людзі”, ёсць “Мова Нанова”, мы прайшлі пад буслом па таронтаўскіх вуліцах, адзначылі Купалле. Але ж мая старэйшая дачка жыве ў Нямеччыне, яна працуе архітэктарам, у малодшай дачкі таксама сваё асяроддзе. На жаль, гэта бяда ўсіх нашых суполак за мяжой – што дзеці не прыходзяць у беларускі рух. Але ж цяпер прыйшла цудоўная моладзь, іх дзеткі ходзяць у беларускую нядзельную школку – сустракаюцца, танчаць, спяваюць,гуляюць, вывучаюць беларускую мову. Яны такія цудоўныя, і ёсць надзея, што гэтыя дзеткі будуць працягваць тое, што мы перанялі ад заснавальнікаў нашага Згуртавання. Мы хочам працягваць тое, што пачалі старыя беларусы ў Канадзе, гэта наш маральны абавязак.

**– Часта прыязджаеце ў Беларусь?**

– Так, даволі часта – раз у два – тры гады. Але ж нам прасцей прывезці ў Канаду нашых бацькоў, каб яны там адпачылі. І ўсё ж мяне вельмі радуе Мінск: суніцы, журавіны (серыя бігбордаў “Смак беларускай мовы”. – **ЕўраБеларусь**.). Мінск вельмі прыгожы горад. Ён змяніўся і стаў цудоўным, у ім шмат адкрытай моладзі. Уся надзея на моладзь – што яны пераадолеюць гэтую застарэлую звычку хавацца і нічога не рабіць, “каб пранесла”. Ёсць надзея, што моладзь будзе актыўнай і зможа нешта змяніць.

**– А ўсё-ткі, што вас асабіста прымушае захоўваць беларускія традыцыі ў замежжы, не асімілявацца з мясцовым насельніцтвам?**

– Мяне нічога не прымушае! Мы асімілюемся з мясцовым насельніцтвам. Я працую мэнэджарам у буйнейшым канадскім банку, у мяне шмат канадскіх сяброў. Мы бярэм удзел у канадскіх фальклорных фестывалях. Але ж я беларуска! Вы паглядзіце: у Канадзе ёсць грэчаскі, італьянскі асяродкі, Таронта – такі шматкаляровы горад, там “варыцца” столькі культур! І кожнае асяроддзе мае сваю суполку. Вы думаеце, што чалавек, з’ехаўшы за мяжу, адразу становіцца канадцам? Ты нарадзіўся беларусам і ты ёсць беларусам. Мяне нічога не прымушае да гэтага: я люблю беларускую мову, спяваю беларускія фальклорныя песні, рускія рамансы, перакладзеныя на беларускую мову. Гэта гонар – быць беларусам.

**– Але ж пра Беларусь так мала ведаюць, што часам нашым суайчыннікам за мяжой прасцей казаць, што яны з Расіі.**

– Гэта слабая пазіцыя, хоць такога шмат. Але ў нашых дзяцей у школках усе ведалі, што яны з Беларусі. І калі ім казалі, што гэта Расія, яны крыўдзіліся. Усе суседзі ведаюць, што мы з Беларусі. Штораніцу я сядаю ў аўтобус, і мая сяброўка – карэнная канадка – ведаеце, як мяне сустракае? “Прывітанне”, “Добрай раніцы!” – яна навучылася. Калі я сыходжу з аўтобуса, яна кажа “да пабачэння”, ведае слова “дзякуй”. Яна ведае беларускую мову лепш, чым некаторыя беларусы! Калі **Алексіевіч** атрымала Нобелеўскую прэмію, першы, хто мяне павіншаваў – мая канадская сяброўка ў аўтобусе. Яна сказала: *“Ты ведаеш, што ваша беларуска атрымала Нобелеўскую прэмію?”* А мы не ведалі яшчэ. Калі маўчыш, то ніхто не будзе ведаць, што ты з Беларусі, а калі кажаш, ёй будуць цікавіцца.

Дадаткова аб 7-м з'едзе можна пачытаць і пабачыць на фэйсбуку і на сайтах:

https://www.facebook.com/valen.bulavko.9/media_set?set=a.1586137974751036.1073741832.100000645460211&type=3
https://www.youtube.com/watch?v=a3NNJwfrVrA&feature=youtu.b
https://www.youtube.com/watch?v=0Ox3MbWB53E
https://www.svaboda.org/a/login/28618074.html
http://nn.by/?c=ar&i=194082
https://www.svaboda.org/a/28618153.html
http://www.nv-online.info/by/809/printed/139035/
http://www.nv-online.info/by/809/printed/139034/
https://eurobelarus.info/news/society/2017/07/19/valyants-na-sha-chenka-syabro-ka-karennaya-kanadka.html
http://www.belaruspartisan.org/opinions/389673/

*Эсэ*

**Пётра Мурзёнак: Францішак Скарына – чалавек Беларусі еўрапейскай**

**Уступ**

Пяць стагоддзяў мінула з таго часу, калі Францішак, сын Лукі Скарыны з Полацку, надрукаваў у Празе першую беларускую кнігу. Гледзячы на такое на першы погляд далёкае мінулае паспрабуем усьведаміць важнасць гэтай падзеі для сучаснай Беларусі.

Жыцьцю і творчасці гэтага выбітнага беларуса прысьвечаны дзесяткі манаграфій і дысертацый, сотні публікацый. Над гэтай тэмай працавалі чэшскія, украінскія, рускія, англійскія дасьледчыкі. Пералік толькі імён вучоных, якія пісалі пра Ф. Скарыну заняў бы некалькі старонак. Можна нагадаць толькі самыя першыя артыкулы пра Ф. Скарыну на беларускай мове, якія з’явіліся на пачатку 20-га стагоддзя: Сяргея Палуяна «Калі друкавалася першая беларуская Біблія» (Наша Ніва”, 1909) і Вацлава Ластоўскага “У 400-летнюю гадаўшчыну” (“Гоман”, 1917). З самых сьвежых публікацый (2017) можна адзначыць фундаментальную кнігу “Францыск Скарына. Са слаўнага горада Полацка” (укладальнік А. Суша), прэзентацыя, якой нядаўна адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, ці серыю папулярных артыкулаў журналіста С. Абламейкі на старонках “Радыё Свабода”.

Хацелася б адзначыць уклад прадстаўнікоў беларускай дыяспары ў галіне “скарынаведы”. Сярод іх, І. Дварчанін (1895-1933), які абараніў дысертацыю на тэму “Францішак Скарына як культурны дзеяч і гуманіст на беларускай ніве” (1926, Прага); В. Тумаш (1910-1998), заснавальнік і дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў ЗША (БІНіМ), які напісаў дзесяткі артыкулаў пра Ф. Скарыну; Я. Садоўскі (1926-1982), трэці прэзідэнт БІНіМу Канады, які напісаў 2 доктарскія дысертацыі прысьвечаныя Скарыне: “Францішак Скарына” (ступень доктара літаратуры ў славяназнаўстве ў 1964 г.) і “Лінгвістычны аналіз чатырох кніг царстваў, надрукаваных Скарынам у 1518 г.” (ступень доктара філасофіі у 1967 г.); айцец А. Надсан (1926-2015), заснавальнік і кіраўнік бібліятэкі імя Ф. Скарыны ў Лондане (Вялікабрытанія). У год 50-годдзя Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Канадзе (БІНіМ), якое адзначалася ў верасьні гэтага года, сябры інстытута надалі імя Францішка Скарыны сваёй арганізацыі.

**Гістарычныя ўмовы вакол Полацка – 1017, 1517 (час Скарыны), 2017**

***Год 1017***

Пяцьсот гадоў мінуўшых ад друкаваньня першай беларускай кнігі, гэта вельмі шмат у параўнаньні з працягласьцю жыцьця аднаго чалавека, але адносна мала для існаваньня краіны. Калі адлічыць яшчэ пяць стагоддзяў назад ад таго часу, у якім жыў Ф. Скарына, то мы апынемся ў 1017 годзе ў старажытным Полацку. Полацкім княствам тады кіраваў (з 1003 па 1044 гг.) князь Брачыслаў з роду Рагвалодавічаў. Ён быў бацькам знакамітага князя Ўсяслава Чарадзея, менавіта пры Ўсяславе Полацкае княства дасягнула найбольшага росквіту і заявіла аб сабе як самастойная незалежная ад Кіева дзяржава (кіраваў з 1044 па 1101 гг.).

Сам Брачыслаў далучыў да Полацка землі паміж Заходняй Дзвіной і Дзісной, паміж Заходняй Дзвіной і Дняпром, заснаваў горад Браслаў і нават спрычыніўся да супольнага кіраваньня Кіеўскай Русьсю разам з Яраславам. Гэта былі часы, калі асноўная небяспека для Полацка ішла ад крыжакоў з захаду, бо ў Паўночна-Усходнім краі яшчэ не было ніякіх княстваў (Маскоўскае княства арганізавалася ў 1263г.). Нягледзячы на крыжацкія пагрозы Полацкая дзяржава гандлявала з еўрапейскімі краінамі праз Рыгуі іншыя гарады. Іронія заключаецца ў тым, што жадаючы прысабечыць сабе гісторыю Кіеўскай Русі, у 1785 годзе Расійская імперыя пабудавала серыю фрэгатаў пад назвай “Брачыслаў” – у гонар “іхняга” легендарнага князя. Полацк быў захоплены Расіяй у 1772 годзе, а да гэтага часу Полацкія землі (за выключэньнем 1563 - 1579 гг., 1705 г.) ніколі да Расіі-Масковіі не належалі.

Тут адзначым, што Полацк (862) і Полацкае княства (960) на працягу свайго доўгага існаваньня забясьпечвалі развіцьцё людзей і краю і склалі аснову беларускай дзяржаўнасці сёньня.

***Год 1517 (час Скарыны)***

Мы сёньня ганарымся тым, што Полацкая дзяржава часоў Брачыслава-Чарадзея пазьней гарманічна ўлілася ў склад ВКЛ, вялікай еўрапейскай краіны. Менавіта ВКЛ зберагло ўсходніх славян ад еўразійскага уплыву, які спрабавалі нясці для беларусаў і украінцаў спачатку мангола-татары, а пазьней маскалі. Францішак Скарына (1481-1540) нарадзіўся ў ВКЛ. Плошча ВКЛ, дзякуючы набыткам такіх

лідэраў і аб’яднальнікаў ўсходніх славян як князі Гедымін, Альгерд, Вітаўт складала ў часы жыцьця беларускага першадрукара каля 690.000 кв. км., у ВКЛ у 1493 г. пражывала 3.75 млн русінаў (беларусаў і украінцаў) і 0.5 млн літоўцаў. Пачатак 16 ст. быў перыядам росквіту ВКЛ, дзяржава гандлявала і мела шматлікія зносіны з еўрапейскімі краінамі. Аднак, мірнаму жыцьцю ВКЛ, і Полацка ў прыватнасьці, перашкаджалі агрэсіўныя прэтэнзіі Маскоўскага царства, якое толькі-толькі вызвалілася ад праўленьня Залатой Арды і пераняўшы ад сваіх нядаўніх валадароў агрэсіўную палітыку рушыла не толькі на ўсход, але і на захад. Ці ведаў аб гэтым малады Францішак? Безумоўна, што ведаў.

У 1506 г. у Кракаўскім універсітэце ён атрымаў ступень бакалаўра мастацтва, у 1512 г. у Падуанскім універсітэце – ступень доктара медыцыны, а ў 1512 г. падчас аблогі Полацк быў спалены маскоўскімі войскамі, у верасьні 1514 г. адбылася найбуйнейшая бітва на тэрыторыі Еўропы паміж ВКЛ і Маскоўскім царствам, якая скончылася перамогай ВКЛ. Да якой краіны ён сябе адносіў і мог сябе адносіць? Відавочна, што да ВКЛ – так пазначана яго прыналежнасць у дакументах Кракаўскага універсітэта “*Францішак з Полацка, ліцьвін*”. Але таксама відавочна, што ён, атрымаўшы адукацыю ў вядучых навуковых цэнтрах Еўроры, не мог не лічыць сябе еўрапейскім чалавекам. Тым больш, што Еўропа заканчывалася ў тыя часы на ўсходніх граніцах ВКЛ; азіяцкая Масковія і Расія часткова трапілі ў Еўропу толькі ў часы Екацярыны II, калі еўрапейскія усходнія геаграфічныя межы былі пасунуты да Уральскіх гор.

***Год 2017***

Што б сказаў сёньня Францішак Скарына сваім землякам-палачанам? Магчыма б ён і парадаваўся таму, што ў яго горадзе ў знак яго надзвычайнага ўклада ў беларускую культуру стаіць помнік, яшчэ адзін помнік стаіць у Мінску каля Нацыянальнай біблятэкі, якая носіць яго імя, помнікі ў Лідзе, Празе, Калініградзе, яго творчасьці прысвечаны фільм савецкіх часоў “Я Францыск Скарына”, і ўбачыў бы шмат яшчэ якіх ўганараваньняў яго здзяйсненьняў (назвы ўзнагарод, вуліц і г.д.). Але калі б не яго надзвычайная постаць, прызнаная ва ўсім свеце, магчыма і не было б гэтых угнараваньняў. Успомніце, як лёгка назву галоўнай вуліцы, праспекта Ф. Скарыны, недальнабачныя і неадукаваныя асобы з лёгкасьцю памянялі на праспект Незалежнасці. Да гэтага часу не праходзіць ідэя прысваеньня Мінскага аэрапорту імя Скарыны. Відаць занадта многа беларускасьці нясе імя Скарыны недабраахвотам і прадаўцам Беларусі.

Магчыма ён таксама быў бы прыемна здзіўлены, што значная частка ВКЛ, дзе ён нарадзіўся і рос, стала называцца Беларусьсю, якая, здавалася, стала нарэшце з 1990 года незалежнай краінай, нягледзячы на потугі нядобрага ўсходняга суседа. Ва ўсім гэтым несумненна ёсць і яго ўклад. Але з другога боку ён быў бы засмучоны, што ў верасьні 2017 года ўсяго ў некалькіх дзесяткаў кіламетраў ад Полацка расійскія войскі цяпер ужо разам з беларускімі рыхтуюцца да чарговай вайны з Захадам і Еўропай (каля 80 км да Лепельскага палігона, каля 40 км ла палігона Дрэтунь). Што ж тут зробіш, калі адной з галоўных ідэялагічных асноў развіцьця лукашэнкаўскай Беларусі і пуцінскай Расіі застаецца Вялікая айчынная вайна, а дзеці разам з дарослымі да гэтага часу гуляюць у вайну “нашы супраць немцаў”.



Думаецца таксама, што ён быў вельмі незадаволеным, што так мала друкуецца ў яго краіне кніжак па-беларуску, а сама беларуская мова з вялікай цяжкасьцю прабіваецца ва ўсіх сферах праз розныя перашкоды, і ў першую чаргу праз вельмі два кароткія словы “або” ці “ці”, якія паставілі лукашэнкаўскія кручкатворы ў розных інструкцыях, законах і падзаконах, якія ў канечным выніку даюць перавагу не беларускай мове, а рускай. Як тут не нагадаць сітуацыю ў Расіі, дзе зусім нядаўна, у сярэдзіне ліпеня, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін заявіў пра недапушчальнасць вывучэння няродных моваў на шкоду рускай мове. Ён даручыў Генеральнай пракуратуры Расіі да 30 лістапада праверыць, ці з’яўляецца добраахвотным вывучэньне родных моваў народамі Расіі ?! Так падаецца, што гэта адтуль, з усходу, ужо больш 20 год паціху вее вецер, які выдувае таксама і з беларусаў усё нацыянальнае, і самае каштоўнае – іх мову. Ніхто, аднак, не здымае віны самаго беларускага насельніцтва і пра-савецкага, пра-расійскага беларускага урада. Пакуль што беларусам ніяк не ўдаецца вырвацца з каланіяльнай залежнасьці

ў якой яны знаходзяцца на працягу апошніх 2 стагоддзяў, пасьля таго як былі паглынуты Расійскай імперыяй.

Ф. Скарына быў бы вельмі здзіўлены тым, што большасць яго кніг, якія разыйшліся па ўсяму сьвету і якія існуюць да сёньня, знаходзяцца не ў яго роднай Беларусі. Не цяжка здагадацца, што асноўным калектарам скарынаўскіх кніг стала імперская Расія – 353 кнігі з 519 вядомых ва ўсім сьвеце, ва Украіне – 48 кніг, у Беларусі і Польшчы – па 28, у Славеніі - 20, у Даніі – 18, у Вялікабрытаніі і Германіі – па 11.

**Нацыянальная ідэнтыфікацыя Ф. Скарыны супраць рэлігійнай**

***Старабеларуская мова і нацыяналізм Ф. Скарыны***

Людзей, якія пражывалі на тэрыторыі ВКЛ, называліся ліцьвінамі. Так, у дакументах Кракаўскага універсітэта пры наданьні Скарыне навуковай ступені бакалаўра ў 1506 г. напісана “Францішак з Полацка, ліцьвін”. Карыстаючыся гістарычнай памяцьцю ліцьвіном называў сябе Адам Міцкевіч у сярэдзіне 19 ст. У 1512 г. Падуанскі універсітэт нацыянальную прыналежнасць Скарыны вызначаў як “рутэн” або “русін”. Думаецца, што аднясеньне Скарыны вядучымі еўрапейскімі універсітэтамі таго часу да ліцьвіноў ці рутэнаў не магло рабіцца без яго згоды.

Дасьледчыкі вельмі часта выкарыстоўваюць тэрмін рутэны, для людзей, якія пражывалі на тэрыторыі сучаснай Беларусі і Украіны ў 10-18 ст.ст., і тэрмін маскалі, для людзей, што жылі на тэрыторыі Масковіі, утворанай у пачатку 13 ст. У мясцовасці, дзе жылі мае дзяды, на процілеглым баку ракі Дзісны, было некалькі маскальскіх вёсак (Грыгалаўшчына, Ваўкі), у якіх, паводле некаторых меркаваньняў, пражывалі стараверы, уцёкшыя ў ВКЛ ад рэлігійнага дэспатызму маскоўскага царства ў канцы 17 ст. Як пісаў мой бацька ў сваіх успамінах, за польскім часам (паміж двума сусьветнымі войнамі) дзеці з беларускіх вёсак празывалі і дразнілі дзяцей з маскальскіх вёсак “матукамі”, а тыя ў сваю чаргу ў адказ – “палякамі”, хаця ў сапраўднасьці ў дзедавай вёсцы жылі спрадвечныя этнічныя беларусы раздзеленыя напалову па рэлігійнаму прызнаку на праваслаўных і баптыстаў, і ніякіх там палякоў-каталікоў у ёй не было.

Сам Скарына мог сябе лічыць ліцьвіном або рутэнам па тэратэрыяльнаму ці этнічнаму прызнаку, аднак, у сваіх кнігах ён вызначаў сябе чалавекам рускім, што было натуральным, бо ён карыстаўся рускай мовай таго часу. Сёньня даследчыкі вызначаюць мову таго часу старабеларускай, царкоўнаславянскай ці стараpускай мовай. Дыфферэнцыяцыя беларускай, рускай і украінскай моў пачалася ў 14 ст. –

тады можна было ўжо адрозніваць гаворкі і пісьмовыя мовы, існаваўшыя ў ВКЛ і Масковіі – старабеларуская (заходнеруская) і староруская (маскоўская) мовы. Ф. Скарына увёў у свае кнігі, шмат слоў і вызначэньняў, якія ўжываліся ў побыце беларускімі людзьмі ў тыя часы, і якія пазьней паступова ўкараніліся і ляглі ў аснову беларускай літаратурнай мовы ў канцы 19 ст. Старабеларускай мовай, якой карыстаўся Скарына, напісаны і Статуты ВКЛ (1529, 1566, 1588).

Як бы сябе не называў Скарына, адно несумненна – друкуючы свае кнігі на старабеларускай мове ён адназначна засьведчыў сваю прыналежнасць да народа, які на ёй размаўляў, г.зн. да беларускага народа. Нават, калі ўлічыць, што такіх назваў - Беларусь і беларускі – на той час не было, як не было іх і ў часы Полацкага княства 500 год таму назад (1017). А беларусы тут жылі, жывуць і будуць жыць! Гэта аксіёма, якая абмеркаваньню не можа падлягаць у беларускім асяроддзі. Відавочна, што выбар мовы сваіх кніг і гэткім чынам выбар сваёй этнічнай\нацыянальнай прыналежнасці цалкам заслуга самаго Скарыны, яго сумленьня і яго грамадзянскай пазіцыі.  У гэтым заключаецца яго патрыятызм і нацыяналізм адначасова, калі казаць сучаснымі тэрмінамі.

Ф. Скарына апынуўшыся і жыўжы доўгі час у Еўропе, як чалавек адукаваны і прагрэсіўны, не мог не заўважыць пачаўшайся асьветніцкай рэвалюцыі, зьвязанай з друкаваньнем кніг. Першая кніга ў Еўропе была надрукавана Й. Гуттенбергам у Германіі ў 1455 годзе. Гэтай кнігай стала “Біблія”, выдадзеная на лацінскай мове. Распрацаваная тэхналогія друкаваньня кніг хутка пачала пашырацца на другія краіны. Як правіла, першыя кнігі былі зьвязаны з рэлігійнай тэматыкай (псалмы, бібліі). Але найбольш важным у гэтым працэсе было тое, што кнігі ў розных краінах пачалі друкавацца на мове народаў, якія іх засялялі.  На той час паняткаў “нацыя” і “нацыянальная дзяржава” не існавалі, аднак, мова першых кніг падкрэслівала этнічную іх аснову.

Першая кніга на роднай мове, нямецкай, была таксама выдадзена ў Германіі (1461, Пфістэр). Далей кнігадрукаваньне на роднай мове пашыралася даволі хутка - Італія (1470), Іспанія (1472), Каталонія (1474), Англія (1475), Францыя (1476), Грэцыя (1476), Галандыя (1477), Харватыя (1483), Партугалія (1487), Чэхія (1488), Данія (1495), Швецыя (1495), Шатландыя (1508), Арменія (1512), Польшча (1513), **ВКЛ\Беларусь (1517),** Фінляндыя (1544), Баскі (1545), Літва (1547), Ірландыя (1564), Румынія (1561), Масковія (1564). Скарына надрукаваў свае першыя кнігі 6 жніўня 1517 года ў Празе, якая была, разам з Кракавам, адным з цэнтраў славянамоўнага кнігавыданьня. Яго “Псалтыр” і 22 кнігі старога завета, былі надрукаваны на старабеларускай версіі царкоўнаславянскай мовы пад агульнай

назвай “Біблія Руска”. Скарына стаў першым сярод усходніх славян, які пачаў друкаваць тэксты на нацыянальнай мове.

### *Асьветніцкі характар царкоўных кніг Ф. Скарыны*

Як адзначаюць многія даследчыкі, “Біблія” Ф. Скарыны ў значнай ступені адрознівалася ад біблій, надрукаваных у Заходняй Еўропе ў той час. Па-першае, у кнізе была вялікая колькасць рутэнскіх слоў і адзначаны значны уплыў польскай і чэшскай моў. Па-другое, і што самае цікавае, “Біблія” мае аўтарскія Скарынавы тэксты, каментары, прадмову і тлумачэньні, а таксама яго аўтапартрэт. Гэта ўсё разам у значнай ступені адрознівала скарынаўскія кнігі ад класічнага напісаньня біблій. Не выключана, што такія новаўвядзеньні былі выкліканы уплывам Марціна Лютэра, які распачаў рэфармацыю каталіцкай царквы. Хаця наўрад ці яны, Скарына і Лютэр, сустракаліся. Марцін Лютэр (1483-1546) у тым жа 1517 годзе апублікаваў свае “Ninety Five Theses” (“95 пастулатаў”), у якіх абгрунтоўваў адмову ад некалькіх пастулатаў рымска-каталіцкай царквы, і ў прыватнасьці ад магчымасьці “адкупляцца ад грахоў”.




У газеце “The Economist” ад 31 студзеня 2017 г. Ф. Скарыну называюць Марцінам Лютэрам Беларусі і адной з найвялікшых фігур еўрапейскай культуры. У той жа час, у газеце адзначаецца, што калі дзейнасьць М. Лютэра прывяла да значных зьмен у цэрквах рымскага абрада і фармаваньню пратэстантызму, што і прынясло М. Лютэру міжнароднае прызнаньне, то праца Ф. Скарыны ніякім чынам не

паўплывала на рэформы царквы грэцкага абраду. Апошняе, магло быць абумоўлена значнай артадаксальнасьцю і кансерватызмам праваслаўнай царквы. Ёсць інфармацыя, што Ф. Скарына быў у Маскве і друкаваў там свае кнігі, аднак, яны былі спалены. Кансерватыўнасць праваслаўнай царквы відаць адыграла сваю негатыўную роль і на дзейнасць І. Фёдарава, выхадца з-пад Вілейкі (ВКЛ), і П. Мсціслаўца, таксама выхадца з Беларусі, якія надрукавалі першую кнігу ў Маскве ў 1564 г. – і Фёдараў, і Мсціславец пад ціскам царкоўнікаў вымушаны былі пакінуць Маскву ў 1566 г. і пераехалі працягваць сваю друкарскую справу ў ВКЛ (Заблудаў, Вільня) і на Украіну (Львоў).

Трэба адзначыць, што ўсё ж уплыў Лютэра і Скарыны на царкву меў розны характар – М. Лютэр быў прафесарам тэалогіі, якія абгрунтаваў новую прагрэсіўную рэлігійную плынь, у той час як Ф. Скарына выступаў хутчэй у ролі асьветніка. Аднак, што яднае абоіх гэтых людзей, гэта тое, што яны спрашчалі дарогу паміж небам і простымі людьмі, гаварылі на мове простых людзей. Мы можам таксама дапусціць, што Ф. Скарына даў штуршок працэсам Рэфармацыі у ВКЛ. Менавіта пасьля Скарыны ў ВКЛ з’явіліся пратэстанты, якія, як зараз лічуць вучоныя, далі штуршок прагрэсіўным пераўтварэньням у Еўропе, і не толькі ў рэлігійнай, а і ў іншых галінах культурнага жыцьця ў эпоху Сярэднявечча.

Дакладна не вядома якога веравызваньня быў Ф. Скарына. Большасць даследчыкаў схіляецца да таго, што ён прытрымліваўся царквы грэцкага абраду. Пра гэта можа сведчыць тое, што Полацк, у якім нарадзіўся і жыў Ф. Скарына, пасьля прыняцьця Брэсцкай уніі 1596 г., яшчэ доўгі час не прымаў уніяцтва (напрыклад, бунт 1623 г. і забойства уніяцкага архіяпіскапа І. Кунцэвіча). Прысабечыць імя Скарыны вельмі хацела праваслаўная царква – для гэтага была створана легенда, што паколькі Скарына апрача імя Францішак меў другое імя – Георгій, якое як бы было характэрна толькі для царкоўных праваслаўных імён, то значыць ён быў чалавекам праваслаўным. Аднак, як паказалі дасьледчыкі (Неміроўскі) у ВКЛ у часы Скарыны не існавала падзелу на каталіцкія і праваслаўныя імёны. Як аказалася пазьней, слова падобнае на імя Георгій, было неправільна перакладзена са скарынаўскага дакумента – у грамаце Жыгімонта Старога ад 1532 г. наш першадрукар называецца “*egregius Franciscus Skorina de Polocko”*, дасьледнік Лаўмянскі ў 1925 г. выказаў здагадку, што пісар у дакумэнце пераблытаў імя *Georgius* і прыметнік *egregius* — шаноўны, слаўны.

Не выключаецца, аднак, калі мець на ўвазе яго адукацыю ў Падуі і Кракаве, што Ф. Скарына мог зьмяніць сваё веравызнаньне на рымска-каталіцкі абрад, якога прытрымліваліся універсітэты гэтых гарадоў. Трэба дадаць, што ён мог стаць каталіком і раней – у Полацку ў 1498 г. быў адкрыты манастыр фрацысканцаў-католікаў. Малаверагодна, што ён быў пратэстантам, аднак, як адзначалася вышэй, рэфарматарскія ідэі М. Лютэра і яго пасьлядоўнікаў (Ж. Кальвін, 1509-1564; У. Звінглі, 1484-1531; Д. Нокс, 1513-1572) маглі мець значны уплыў на рэалізацыю Скарынаўскіх праектаў кнігадрукаваньня, што тычыцца формы і падачы аўтарскага матэрыялу і каментараў у кнігах выключна рэлігійнага зместу, як гэта было з "Бібліяй" ці з кнігамі малога фармату, якія маглі быць больш даступнымі для простых беларусаў.

Думаецца, што для нас сёньня не так і важна якога веравызнаньня быў Ф. Скарына. Тое што аб гэтым няма афіцыйных зьвестак можа толькі сведчыць аб рэлігійнай талерантнасці Скарыны, якая, дарэчы, была характэрна для ўсяго ВКЛ. Але вось, што адназначна вынікае з кнігаў Скарыны – гэта тое, што яны прызначаліся для "людзей паспалітых", г.зн. для простых, бедных людзей. Хтосьці можа спрачацца і казаць аб тым, што тыражы кніг былі невялікімі, 300-500 экзэмпляраў (па разліках, Скарынам было надрукавана каля 10.000 кніг), што невялікая частка насельніцтва была граматнай, і значыць толькі багатыя людзі маглі карыстацца гэтымі кнігамі. Але відаць Скарына бачыў значна далей.

Асьветніцкая рэвалюцыя, якую несла з сабой кнігадрукаваньне можна сёньня параўнацца з развіцьцём і ўжываньнем кампутараў і інтэрнэта. 30-40 год назад толькі адзінкі з беларусаў мелі кампутар, а сёньня без кампутара ці без доступу да інтэрнэта нельга ўявіць сабе ні адну беларускую сям'ю. Што надзвычай важна - Скарына не толькі надрукаваў першыя кнігі па-беларуску, ён прывёз тэхналогію кнігадрукаваньня у сваю краіну. Ужо ў 1522 г. у Вільні ён выдаў малым фарматам "Малую падарожную кніжыцу", а ў 1525 г. кнігу "Апостал". Зноў жа, мовай гэтых царкоўных кніжак была старабеларуская. Дасьледчыкі падлічылі, што звыш 40% слоў у іх адносіцца да беларускай лексікі, астатнюю частку, складаюць царкоўнаславянскія словы. Гэта і зразумела, менавіта ў гэты час працягвала пашырацца розьніца, якая была ўжо добра заўважнай у канцы 14 ст., паміж трыма ўсходнеславянскімі мовамі – беларускай, рускай і украінскай.

**Заключэньне**

Імя Ф. Скарыны ўсьведамляецца беларусамі не толькі як з першадрукаром беларускіх кніг і яго прыналежнасьцю да беларускага народа, а і не ў меншай ступені з яго прыналежнасцю да еўрапейскай цывілізацыі. Гонар для беларусаў мець у сваёй спадчыне такога гіганта-асьветніка, першапраходца і інаватара, якім ёсць у беларускай і ўсходнееўрапейскай гісторыі Францішак Скарына. Яго фігура настолькі вялікая, што мы можам не крыўдаваць, калі кусочкі яго славы хочуць перайняць нашы суседзі, аднак, само яго жыцьцё і асноўныя здзяйсненьні без сумневу належаць Беларусі. Паводле рэтраспектыўнага аналіза эпохі, у якой жыў і тварыў наш зямляк, можна, з пункту гледжаньня сёняшніх ўяўленьняў аб нацыі і нацыянальнай дзяржаве, сьвярджаць, што Ф. Скарына і ідэнтыфікаваў сябе беларусам. Так, у тыя часы ён мог быць і ліцьвіном, і рутэнам, і рускім, аднак для нас сёньня ён беларус і беларус з еўрапейскай вартасьцю. Яго еўрапейскасць спрыяе паступоваму вяртаньню нашай краіны ў Еўропу, як бы гэта не падабалася тым дзяржаўным дзеячам і навукоўцам, якія глядзяць у еўразійскі бок.

**Piotra Murzonak: Francishak Skaryna – the Person of Belarus European**
***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, p.28-37;*** www.sakavik.net***)***

Five centuries have passed since that time, when Francishak, son of Luka Skaryna from Polatsk, printed the first Belarusian book in Prague. Honor for Belarusians to have in their inheritance of such a giant and educator, pioneer and innovator, which is in the Belarusian and East European History Francishak Skaryna. His figure is so high that we can not take offense when a piece of his fame want to borrow our neighbors, however, its very life and the fulfillment of the basic undoubtedly belong to Belarus. Retrospective analysis of the era in which our countryman lived and worked claims, in terms of current understanding of the nation and the nation-state, that F. Skaryna and identified himself as Belarusian. Yes, in those days he could be Litvin and Ruthen and Russian, but today he is for us the Belarusian and the Belarusian of the European value. His europeaness contributes to the gradual return of our country to Europe, even that do not like those statesmen and scholars looking at the Eurasian side.

**С. Панізьнік: Да Скарынаўскага юбілею**

Рэдакцыя часопіса “Культура. Нацыя” атрымала ад сп. С. Панізьніка матэрыялы і вершы, датычныя да Францішка Скарыны і 500-годдзя друкаваньня славутым асьветнікам першай беларускай кнігі.




Сп. С. Панізьнік вядомы беларускі паэт, перакладчык, краязнаўца, актыўны грамадскі дзеяч. Сяргей Панізьнік нарадзіўся 10 мая 1942 года у вёсцы Бабышкі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці. Сябра Саюза беларускіх пісьменьнікаў з 1967 года. Старшыня Таварыства “Беларусь-Латвія”.

**С. Панізьнік: Да Скарынаўскага юбілею** *(здымкі)*

Рады вітаць і пажадаць посьпехаў у гонар юбілею Скарыны. Я, бабышкаўска-лявонпальскі малец, узнагароджаны медалём Францыска Скарыны ў 1991 годзе, сабраў дзесятак тэматычных вершаў-прысвячэньняў, некалькі пераздымкаў. Асмелюся дадаць да ведама, што мною, супрацоўнікам выдавецтва "Юнацтва", былі выдадзены такія зборнікі:

1. "Падарожная кніжка Скарыны", прысвечаная 500-годдзю беларускага Першадрукара (з удзелам В. Дышыневіч). 1990 г., 326 стар. У зьмесце - творы больш за 100 аўтараў.

2. "Слаўны сын Беларусі: Кніга пра Скарыну". "Школьная бібліятэка". 1994 г., 254 стар. Прадмова А. Мальдзіса.

Перасылаю арыгінальныя здымкі партрэтаў Ф. Скарыны, таксама пераздымкі з Беларускага аддзела старадрукаў, створаных у Львове Іларыёнам Свянціцкім і некалькі дагледжаных вершаў пра Ф. Скарыну.

*Поспехаў у Вашай дзейнасці! З юбілейным паклонам - Сяргей Панізьнік, афіцэр 4-й ступені ордэна Трох Зорак Латвійскай Рэспублікі.*



Партрэт Ф. Скарыны латышскага мастака Талывалдыса Страўтманыса.
Музей гісторыі медыцыны, Рыга.



Партрэт Скарыны мастака Пётры Мірановіча (1902-1990).



Партрэт Скарыны мастака Валеры Дзевіскібы.



23 выданьні Бібліі пад адной вокладкай.
Музей украінскага мастацтва. Львоў. 1966.



"Зачытаная" старонка Бібліі. Музей украінскага мастацтва. Львоў. 1966.



Ксёндз Уладзіслаў Чарняўскі у цэнтры грамады пасля асвячэньня мемарыяльнай дошкі, прысвечанай выдаўцу першай кнігі ў ВКЛ Ф. Скарыну. Вільня, 16.XI.1990 г.

*Паэзія*

**Вершы С. Панізьніка**

**Вяртальны шлях Скарыны**

Шлях нашых продкаў - над ноччу маёй вартоўнай.
Слухаю вейкамі, вуснамі. Час пазнаю навобмацак…
Прага раскошная ўчора збірала гатоўна
дзіўнага госця ў дарогу далёкую - ў Полацак.

Дбайна рыпелі вазы, ўгінаючы землі Еўропы.
І падпадалі пад колы вячэрнія цені і золакі.
Хутка я з Прагі вярнуся дадому таропка
з кладам, каштоўней купецкага срэбра і золата.

Кнігі пачнуць перапісваць, а дзесьці - панішчаць.
Мяне ўзнагародзяць чужыя, ганьбіць пачнуць – суродзічы.
На Старамесцкія шпілі мой Ветах стагоддзі наніжа:
з герба на неба крывіцкае сонца выводзячы.

Сціхла рыпенне. Не чуюцца шоргаты кніжак.
З ночы вартоўнай ціхутка вярнуся да хаты я.
Вільню і Полацак бачу з-пад промняў увішных…
Бібліі шлях – даўні шлях нашых продкаў нагадвае.

*1995*

**…………………………………………………………………………………**

**Павучанні Палачаніна**

*Не многым учителем бывати,*
*но более умети язык свой справовати…*
*Францыск Скарына*

Мая парада, светлыя сябры, -
лагодным словам смела прычасціцца.
Бо сам я мітусіўся да пары,
скакаў, як тая – восенню – сініца.

Прыходзіць разуменне спакваля.
Мне сорамна было між добрых людцаў
да мовы акалелай прыгарнуца,
сказаць, хто – я і – дзе мая зямля…

Таму і зычу шчыра, дружбакі,
жывыя струны абуджаць у сэрцы, -
бо на яго наматваць давядзецца
балюча-ачарсцвелыя вякі.

А гэтая работа, знаю сам,
не да спадобы розным маралістам…
…Яшчэ і сёння ў Менску многа свісту.
Я ж зычу Волю чыстым галасам.

З нас кожны несмяротны толькі тым,
што ёсць Айчына – мацярык для Ведаў.
Прыслухайцеся вы да запаветаў,
дзе кожны кліч належыць маладым.

І хай адчуе
Бацькаўшчына
ўздым !

*1989, 2017*

..........................................................................................

**Маё развітанне з Прагаю**

Як маці ўсіх добрых размоў --
зрудзелая кніга… Скарына,
дазволь мне вярнуцца дамоў
і за Цябе, і за сына.
Ты ж зелле нясі каралю,
гаючымі травамі ўвіты…
…Ля Полацка – кім? – у зямлю

калісь быў штыкетнік убіты.
Даў водмаладзь. Да бальшакоў
як волаты дрэвы ступілі.
…Пытаю праз далеч вякоў:
“Завошта цябе не ўзлюбілі?”
Выгнаннік. На роднай зямлі
ты меў толькі краты і путы…
Без Бацькаўшчыны, без сям’і
стаяў перад чарай атруты.
А можа і выпіў…( Кароль
падпіша паперы на спаткі!) …
Ад Прагі да Полацка – золь.
Праз восень ляту без аглядкі.
А мы вось, як Ты, ці любі…
Пад роднымі зорамі, небам
любоў стала пылам, ці хлебам,
а можа атрутай – і пі!
Ад Прагі да полацкіх вех
у чэшска-гусіцкай трывозе
на бераг прыдзвінскі прыбег.
Ты ж – тут!
Нам цяпер – па дарозе!

*Прага – Уручча. 1973-1995*

.......................................................................................

**Наўздагон Сымону Буднаму**

*“Катэхізіс” Сымона Буднага – кніга кароткіх пытанняў і адказаў – была выдадзена 10 чэрвеня 1562 г. у Нясвіжы віленскімі шрыфтамі Ф. Скарыны*

- Не знік ты, Беларус?
- Іду, збіраю сілы
дарогай, дзе стаяць Дубок, Бяроза, Клён.

- Што хочацца сказаць?
- Пра што маўчаць магілы:
злучыць сваё імя з мільёнамі імён.

- Чым дзейсны, Беларус?
- Яшчэ ідзе стварэнне…
Здымаю абручы з грудзей і галавы.

- Ішоў ва ўслугачы?
- …Ламалася цярпенне;
ў каго расла любоў – выглядваюць з травы.

- Прызнаны, Беларус?
- Прайшоў вякоў напасці.
Пераживаў і ўзлёт…

- Быў летаргічны сон?
- Прымаў крывіч, ліцьвін Нябеснае Прычасце.
Вунь помнікі стаяць: Дубок, Бяроза, Клён.

- Прыціх Народны Фронт?
- Яшчэ ідзе Пагоня -
будзіць нямы палон і страты ўсе вярнуць.

- І Мову абдымаць?
- Мы ўсім суседзям – роўня.
Хай зычны Радавод і дзеці берагуць.

- Няўжо той Беларус: няўклюда-недарэка
дзяржаўны небасхіл узвысіць з-пад званіц?
- Скарына праз вякі з Варагаў вёў да Грэкаў!

Мы стрэлы палачан прытулім да байніц.
Дубок, Бяроза, Клён – Скарыны легіён.

*1.12.1989, 20.07. 2017*

.....................................................................................

**Малітва Скарыны**

Во гэтаксама, як дзічына:
на дальні выбегла лужок,
а прызнае сваё лаўжо;

як птушачка: з-пад аблачыны
палі, разлогі аглядае,
а ведае сваё гняздо
ў траве высокай і густой;

як рыба: ў касяку гуляе;
плыве да берага чужога,
а чуе схоўныя віры;

як пчолы: ў полі да пары,
а ворага ля іх парога,
вулей бaронячы, зваююць, -

таксама й людзі: да зямлі,
дзе ўзгадаваныя былі,
дзе Бог ім сэрцы акрыліў, -

любоў вялікую мілуюць.

*6.11.2009*

...........................................................................................

**На ўзвышша Роду**

*Шумяць вякі зялёна,*
*Бо глыбока*
*Карэняцца Скарынавы сляды.*

*Рыгор Барадулін*

Калі ў Дзвіну плыў з ручая,
было мне вузка…
І вось я з “Бібліяй…”. Чыя?
Чытаю: “… руска”.
Скарына працу падарыў
не жніўню – Спасу.
Адратаваў, а не скарыў
зямлі акрасу.
Ці з веры рускае мой хрост,
ці з веры рымскай, -

на доўгія вякі быў пост
краіне крыўскай.
Ліцьвінам быў я, быў рабом
расейскай сілы…
Мне б сёння вольнасць піць нагбом!
Ды – Божа мілы -
яшчэ не выпрастаў хрыбет…
А стаў я гонкі,
калі Скарыны запавет
збіў лёд палонкі.
Палон палонкі, біч ярма
вякі паскручваў…
Апроч Скарыны і няма,
хто б сэрца мучыў
і выпраўляў знямелы лёс
на ўзвышша Роду, -
каб смела беларускасць нёс,
жыў не ў дагоду…
- Ахвярты Спас! Апостал быў?
“ - Да Влтавы збочыў…”
А ў Палату глядзіць не Дзіў, -
Скарыны вочы.
З іх Знічка рысу правяла:
слязу – у жнівень…
І ўжо паболела святла
на нашай ніве!
-------------------------------------------------------

*Спас* – эпітэт ва ўслаўленні Ісуса Хрыста. *6(19) жніўня* ў народзе адзначаюць Праабражэнне Ісуса.
*Яблычны Спас* – дзень дабраслаўлення пладоў.
*Дзіў* – у далёкіх продкаў бажаство неба, бацька багоў і людзей, кіраўнік Сусвету і стваральнік маланак.

.......................................................................................................................

*“КУЛЬТУРА. НАЦЫЯ”, №19, верасень 2017* *ISSN 2291-4757*

**Пажытак**

*Усялякае Слова, Богам натхнёнае, - карысна!*
*Яно вучыць, выкрывае, выпраўляе і карае!*

*Францыск Скарына*
*(Паводле прадмовы да “Псалтыра”)*

Пайду, падумаю… Паеду…
На час няўродны адлучуся.
Хай Беларусь -
Каханка-Веда -
паверыць, што і я вучуся
у Празе, Кракаве, у Львове…
Радню шукаю ля Таронта…+)
Крутыя ў нас шляхі любові,
ліхія думаў гарызонты.
Была спагада да Майсея:
маца, разлом вады, скрыжалі…
Пажытак свой мы паважалі.
А сталі з кнігамі вітрыны
падкрылкамі для Беларусі?
Пайду, падумаю… Вярнуся,
адкрыю Біблію Скарыны.
Пакуль у Слова не ўвапруся, -
не нажыву сваёй Краіны.

------------------------------------------------------------

*Сям’’я Георгія Яна Скарыны знаходзілася ў Мексіцы, Стэнлі (Станіслава) Скарыны – у Канадзе.*

*18.02.2006, 16.12.2015, 2017*

.......................................................................................................................

**Першаптах**

*Прысвячаецца 505-годдзю Францішка Скарыны*

Уздымаюцца кнігаў крылы:
на стагоддзі у кніг размах.
Светлы вырай пачаў Скарына -
дальназорны наш Першаптах.

З кнігай роднаю падрастаў я
і тэўтону казаў: “ - Не руш
ты ахоўніцу небакраю
і збіральніцу нашых душ!”

З кнігай знішчыць нас не ўдалося.
Веру кожнаму ў ёй радку
пра крывіцкае ускалоссе
на Скарынаўскім мацерыку.

Птах вярнуўся. У ціхай стоме
на гучальнай стаіць вярсце.
З мудрай кнігай у родным доме
юны родзіч яго расце.

*1995*

.......................................................................................................

**Роднаму Полацку**

*Францішака, Скарыніна сына з Полацка,*
*у лекарскіх навуках доктара, прамаўленне*

*Калі у далёкіх краях на мяне заяўлялі правы,*
*Паўтараў, што са слаўнага Полацка родам.*

*Генадзь Бураўкін, “Скарына”*

Бераг нямеў.
Пад пяском зараслі пласкадонкі.
І перакулены
вежы, званіцы, крыжы…

Полацак!
Ты крутабокі і звонкі:
кроны святыя свае ўскалышы!

На крыжака
прабіраўся ты воўчаю сцежкай,
зьлюбамі-шлюбамі
весніў прыдзвінскі прастор…
Полацак!
І каб нашчадкаў усцешыць, -
ордам жахлівым даваў ты адпор.

Веча гудзе.
Адраджаецца Полацка вера.
Славу тваю
я вяду ў далячынь і на ўзвыш.
Полацак!
Дужай дзяржаўнасці бераг,
помны як наш Еўфрасінеўскі Крыж!

……………………………………………………………………………………

**Францыску Скарыну прысвячаецца**

*Павяленнем, працаю і выкладам…*

*Каб мы… усялякага труда і скарбу*
*для паспалітага дабра і для айчыны не шкадавалі…*

*Эгрэгіус Ф. Скарына*

Слаўлю, гордыя словы
незгасальны ваш лад!
Наглуміліся з мовы
каля тронаў, палат, -
а яе не скарылі,
бо на вуснах цвіла
і нашчадкаў Скарыны
у паход павяла.

Ні пагрозных указаў,
ні завейных магіл,
ні пякучай абразы,
ні бяздомнай тугі
не збаяліся словы, -
бо з аховай жылі…
А знішчальнікі мовы
палыном параслі.

З намі гордыя словы
назаўжды, назусім.

І Скарыны
прадмовы -
перад светам усім!
-----------------------------------------------
*Эгрэгіус ( egregius ) на лаціне – шаноўны, слаўны*

.............................................................................................................

**Siargei Paniznik: To Skaryna’s anniversary**
***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, p.38-51;*** www.sakavik.net***)***

To the 500th anniversary of publishing of the first Belarusian books by famous Enlightener, S. Paniznik provided original images of Skaryna’ portraits, images made in the department of Belarusian early prints, created in Lviv by Ilarion Svjancicky, and a few well-groomed poems about Skaryna.

**Вершы Святланы Кабанавай**



Кабанава Святлана Мікалаеўна, навуковец, паэт, перакладчык, папулярызатар навукі. Нарадзілася ў Менску, скончыла біялагічны факультэт Беларускага Дзяржуніверсітэту, потым - аспірантуру пры Акадэміі Навук Беларусі. Кандыдат біялагічных навук. З 1996-га году жыве ў г. Дзюсельдорф (Нямеччына).

Аўтар паэтычнае складанкі "Пачатак" (2002 г.). Лаўрэат прэміі часопіса "Літаратурны Еўрапеец" (Франкфурт-на-Майне, Нямеччына, 2004 г.). Пераможац (1-е месца) міжнароднага творчага Конкурсу "Пушкін для дзяцей" у намінацыі "Паэзія" (грамадства "Германа-Расійскі Фэст", 2012 г., Берлін, Нямеччына). Лаўрэат паэтычнага Конкурсу "Пад небам Балтыкі-2015" (Талін, Эстонія). Уладальнік прыза глядацкіх сімпатый міжнароднага творчага Конкурсу "Залатое Пяро Русі-2015" у паэтычнай намінацыі "Аднаслоўны шматрыфм" (Масква, Расія).

Фіналіст (шорт-ліст): творчага Конкурсу, арганізаванага ракетна-касмічнай карпарацыяй «Энергія» ім. С.П. Каралёва (г. Каралёў, Расія), у намінацыі "Верш пра Космас" (2014 г.); міжнароднага паэтычнага Конкурсу "Пушкін у Брытаніі - 2015" (Лёндан, Англія); міжнароднага літаратурнага Конкурсу «Рускі Stil-2016» у намінацыі "Нашым дзецям. Паэзія" (Штутгарт, Нямеччына); міжнароднага мастацкага Конкурсу "Open Eurasian Literature Festival and Book Forum" (OEBF) - 2016 (Лёндан, Англія); творчага Конкурсу на лепшы верш пра Менск, арганізаванага выдавецтвам "Чатыры чвэрці" (Менск, Беларусь, 2017).

Жыццёвае крэда: "Самаўдасканаленне. Шчырасць. Радасць".

**Лесьвіца ў неба**

Прыгажуня сінявокая, шчырая -

Беларусь да неба прагнецца чыстага,

Пойдзем разам па свабоднае лесьвіцы -

Засьпявай, сугучча сонца й месяца!

..................................................................................................................

**Беларуская мова**

У жніўні на жніве,

У сьнежані Хрыстовым

Цудоўная ЖЫВЕ

Скарынаўская МОВА!

Як бусел-сакавік,

Свабодны белы бусел,

Ты аб'яднала ўсіх

Сусьветных беларусаў.

Зьдзяйсьняеш мэту ты,

І неўзабаве ўлетку

Сапраўдную знайду

Я ў папараці кветку.

А потым ад нябёс

Да нас дакрочаць словы,

Што добры будзе лёс

У беларускай мовы.

Што добры будзе лёс

Народа Беларусі –

Яму дзіця прынёс

Свабодны белы бусел.

То нарадзіўся зноў

Сярод сьвяточных блікаў

Максім – пяштотнаслоў

І востраслоўца Быкаў.

І нам трымаць ліхтар,

Ліхтарык перамогі,

Сьпявай, сьпявай пясьняр

На беларускай мове!

..........................................................................................

**Менск**

У лёсу

няма ўзросту...

Што знойдзецца

наўзамен?

Узьнёсься
як праўда востры!

Ён вабіць

гасьцінцам,

Менск!

Адкрыты

гасьцінец, вольны!

Знаёмы?

Скарыны шлях!

Здабыты,

адзіны, здольны,

шалёны,

як з крылаў сьцяг!

Пачуцьці мае

трымае...

Схавай

каб іх не згубіць!

Прыемна быць

разам з краем,

аб Сьвіслачы верш

трубіць!

Цудоўна

Траецкай кавай

зьнянацку пачаставаць!

Мадонна

у сквер Купалы

забегла калядаваць...

Няма ёй нідзе

адмовы,

Цікавая навіна:

Мадонна - то наша мова,

Як маці, яна адна!

На мове пішу анёлу,

(Сымон і Алена* з ім),

Паштоўку знайду ў Касьцёле,**

Каб падараваць усім!

Паштоўка ляціць

да лёсу,

да Менску,

да тых вачэй,

што толькі

надзею просяць

гасьцінец знайсьці

хутчэй!

...........................

**,** Касьцёл Святога Сымона і Святой Алены (таксама вядомы як Чырвоны касьцёл)*

.............................................................................................................................

**Хто ты?**

Шаптуха ты ці актрыса?

Чачотку скачаш ці твіст?

Зьнянацку або наўмысна

Фарбуеш твар...

Хто ты? Стыліст?

Ці ты пераможца? Ахвяра?

Прываблівая, як даляр,

Шукаеш ты што ў ліхвяра?

А можа ты й ёсьць ліхвяр?

Бязьлітаснаю пухлінай

Старых псуеш, маладых ...

Апошняя ты хвіліна

сыйшоўшая назаўжды?

Чаму па-воўчаму выеш,

ці каркаеш, як крумкач?

Куды кіруешся? Ў вырай?

Ты хто? Усьмешка ці плач?

Нявольніца ці княгіня?

Зьмяняй вобраз свой не зьмяняй -

Цябе пазнаю!

Зьгінь! Ня зьгінеш?

Неверагодна!

Тады ты - ...

хлусьня!

.........................................................................................................

**Матуля**

«Добры дзень, матуля!»,-

Сэрца шчыра шэпча,

Сьветлы ты прытулак

У руціне шэрай!

«Ты – мае сумленьне!»,-

Дабаўляюць вусны,

Прыклад і натхненьне -

Маці-беларуска.

Ты – мая надзея,

Кветачка на сьвяце!

Дзе анёл мой, дзе ён?

Беларуска-маці!

Што цябе хвалюе,

Плача хто на ганку?

Я чамусь малюю

Бела-партызанку...

Падарункі возьмеш,

Вышыванку з хусткай,

На Купальле пойдзеш,

Маці-беларуска.

Там пяе дзяўчынка,

Гоцае, смяецца,

Як крыніца чысты

Яе голас льецца!

Шчок загар маркоўны,

Золата ў валосьсі,

Позірк васільковы,

Сёлета ёй восем.

У руцэ ажына,

Быццам фарба з хусткі...

Моваю адзінай

Кажуць беларусы:

«Добры дзень, матуля!»

Паўтарайце словы!

Роднаю лістую

Да матулі мовай!

..........................................................................................

**Белая Вежа**

Ты мэтай была ў барацьбе,

Твой стан – цьвярдыня, незалежнасць,

Лячу зноў у думках к табе,

Беларуская Белая Вежа!

Беласьнежнае крыльле бусла

Гладзіць файную цэглаў мярэжу,

Ты заўсёды прыгожай была,

Беларуская Белая Вежа.

На пагорку як пані стаіш,

Абдымае цябе ветрык свежы,

Ён пяе. Ты чамусьці маўчыш,

Беларуская Белая Вежа.

Як заўсёды надзейны твой схоў

(Быццам той хмарачос, як належыць),

Стой магутнай мільёны вякоў,

Беларуская Белая Вежа!

..........................................................................................

**Падарожжы**

Мы зьнянацку

да нябёс

паляцім,

Д'ябал б’е

наперакос?

Асьвяцім!

Па ракіце угару

пабяжым,

Я куточак прыбяру –

сьцеражы!

На нябёсах

колаў сем –

палічы!

Ды таксама

пеклаў сем

уначы.

Адкуплюся

ад начы

навіной,

пас прабую уцячы,

ты - за мной.

Да знаёмага кутка,

да мяжы...

Пабяжым мы наўпака?

Пабяжым!

Паляцім наадварот?

Паляцім!

Сонца як чэшырскі кот

зіхаціць!

……………………………………………………………………………

**Пачуцьці**

Пачуцьцяў веснавых ліхалецьце

Нагадае мне той карагод,

Што складаюць далонямі дзеці,

Ля ялінкі трымаючы год.

Хіба мала - давер і надзея?

(раптам, ветрык сумневаў заціх),

Адкажы, карагод, зараз дзе я?

У палоне ілюзій якіх?

Пачакайце! Я крочу павольна,

Не спалохаць пачуцьцяў маіх,

Перайначыць ніхто іх няздольны!

Нават Бог, дзесь надоўга ён сціх ...

То пашана ці цяжкая доля –

Захаваць, што нясу па жыцьці?

Як каму. Мне каханьне – то воля

Па шляху разуменьня ісьці!

..........................................................................................

**Кветка на Пляцы**

Мая кветачка –

Мой дыямент,

Прыгажуня –

Чырвоная зь белым.

Грай, жалеечка,

Мой інструмент –

Мы сьпяваць

Будзем разам і сьмела.

Грай, жалейка,

Свабода ідзе,

Крок за крокам

І слова за словам.

Бачыш, Божа,

У нас бы ў людзей -

Мы шануем

Краіну і мову.

**Sviatlana Kabanava: Poems**

***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, p.52-65;*** www.sakavik.net***)***

Svetlana Kabanova, scientist (PhD in Biology), poet, translator, and popularizer of science. Since 1996 she has been living in Düsseldorf (Germany). She is the winner of the award of the magazine "Literary European" (Frankfurt, Germany, 2004), the winner of the international art contest "Pushkin for children" (nomination "Poetry”, "German-Russian Festival", 2012, Berlin, Germany).

*Інтэрв’ю*

**Экспрэс-інтэрв’ю з Аксанай Колб, галоўным рэдактарам газеты “Новы час”, узятае сп. Валянцінай Шаўчэнкай для часопіса “Культура. Нацыя” падчас працы 7-га з’езда беларусай сьвету (Мінск, 15-16 ліпеня 2017 года)**

*В. Ш.* **Скажы, калі ласка, як ты прыйшла працаваць у гэту газету?**

*А.К.* Гэта было так даўно. Я пачала працаваць у газеце “Згода” ў 1996 годзе. Газета “Згода” на той час была газетай партыйнай.

***В. Ш.*** **Да якой партыі належала газета?**

*А.К.* Да “Партыі народнай згоды”. Аднак, у 1998 г. яна ўжо стала непартыйнай у сувязі з новымі умовамі створанымі прыходам да ўлады Лукашэнкі.

***В. Ш.*** **А да гэтага чым ты займалася?**

*А.К.* А да гэтага фактычна нічым.

***В. Ш.*** **А па прафесіі ты хто?**

*А.К.* Па прафесіі я гісторык. Аднак, да прыходу ў газету па спецыяльнасці не працавала. Дачушку гадавала, гандлявала ў пачатку 90-х, некаторы час прадавала кніжкі ў электрычках. У газету я прыйшла пасьля ўдзелу ў парламенцкіх выбарах ў 1995 годзе.

***В. Ш.*** **Ты была назіральнікам на выбарах?**

*А.К.* Не. Я працавала тады ў камандзе А. Караля і так сталася, што прыйшла ў газету. І вось ужо больш 20 год працую у гэтай газеце. У 2006 г., падчас прэзідэнцкіх выбараў, газету зачынілі за распальваньне міжнацыянальнай розьні. У газеце быў надрукаваны артыкул пра дацкія карыкатуры, там распавядалася як гэта было, як гэта гісторыя ў Даніі расследавалася, і ў якасці ілюстацыі мы размясцілі і самі карыкатуры (маюцца на ўвазе карыкатуры на прарока Магамета, *П.М.*). Літаральна праз два дні тут ужо былі і КГБ, і Беларускае тэлебачаньне, і астатнія. Справа ў тым, што сп. Аляксей Кароль быў даверанай асобай сп. Казуліна. Пасля выступу Казуліна “Дзе грошы Саша?” было зразумела, што гэта так проста не пройдзе. І я лічу, што гэта была спланаваная акцыя. Ну і ўсё, зачынілі газету, адсядзеў некалькі месяцаў у турме наш выпускаючы рэдактар. І было зразумела,

што нам не дадуць узнавіць газету, прынамсі, не дазволяць А. Каралю зарэгістраваць другое выданьне.

На той час у Мінску амаль што перастала выходзіць газета “Новы час” (газета гарадскога таварыства беларускай мовы). Выходзілі 1-2 нумары на год. Каб не страціць рэгістрацыю і не згубіць газету наш калектыў уключыўся ў працу гэтай газеты і ажывіў яе. Нават не адразу прозьвішча А. Караля з’явілася ў газеце. Але калі яго прозьвішча з’явілася ў газеце, то да яе быў пададзены іск ад генерала Чаргінца спачатку на сумму 50 тысяч даляраў, пасля іск зьменшыўся напалову. А іск быў за апублікаваную серыя артыкулаў журналіста А. Тамковіча - адзін з артыкулаў быў пра генерала Грыба, а другі пра генерала Чаргінца. Там нельга было не ўзгадаць асобу сп. Чаргінца, там быў і яго афганскі перыяд, і хаця многія дэталі былі ўзяты ў двукосьсі іск быў пададзены аб абароне годнасці.

Быў суд, адвакатка, якая вяла нашу справу была ўпэўнена, што Чаргінец не зможа выйграць, бо ён не прадставіў ніякіх доказаў. Аднак, ён выйграў, сам не спадзяваючыся на тое. Чаго мы толькі дамагліся гэта тое, каб сп. Чаргінец аддаў выйграныя па суду грошы хворым псіха-неўралагічнага дыспансера. Здаецца што ён гэта і зрабіў.

З таго часу газета выходзіла, аднак, не распаўсюджвалася пра “Саюздрук”. І толькі нядаўна, пасля размовы І. Сярэдзіча з Лукашэнкам газета “Новы час” уключана ў распаўсюд праз “Саюздрук”. Раней распаўсюд быў бясплатным, праз кола нашых людзей у Мінску і іншых гарадах. Пры такой сістэме, калі газету раздавалі бясплатна, было ўсё добра, газету чыталі. Зараз газета стала платнай і чытачоў значна паменела. Пасьля таго як памёр галоўны рэдактар, Аляксей Кароль, я як яго наместнік, узяла газету на сябе.

*В.Ш.* **Як ты бачыш будучыню гэтай газеты?**

*А.К.* Шчыра ці прыгожа (*са смехам*)?

*В.Ш.* **І шчыра і прыгожа. Я бяру гэта інтэрв’ю для часопіса “Культура. Нацыя” і думаю, што праблемы для беларускамоўных выданьняў могуць быць агульнымі, у прыватнасці, зацікаўленьне чытачоў да такіх выданьняў. Якой бы ты сама хацела бачыць газету?**

*А.К.* Калі казаць пра саму газету, то сапраўды я лічу, што гэта на сёньня найлепшае беларускамоўнае выданьне.

Мы не скаціліся да коміксаў, у нас шмат аналітыкі, палітычнай і эканамічнай, шмат значных і цікавых культурніцкіх артыкулаў, шмат інтэрв'ю з прадстаўнікамі іншых краін.

Мы выпускаем газету толькі на беларускай мове. Наша прынцыповая пазіцыя, што калі артыкул цікавы, то яго прачытаюць і па-беларуску. Мы не можам апускацца да ўзроўню тых, хто не хоча ведаць беларускую мову. Усё ж такі мы жывём у Беларусі, няхай вучаць беларускую мову. Калі захочуць пачытаць штось цікавае, то пачытаюць.

Якая будучыня? Хацелася б каб чытачоў, падпісчыкаў было больш. Для гэтага патэнцыял ёсць. Аб гэтым сведчыць тое, што зараз адбываецца ў Беларусі - узрастае цікавасць да беларускай культуры і беларускай гісторыі. Ёсць куды развівацца. А тое што для развіцьця газеты і яе рэкламы патрэбныя грошы - гэта відавочна. Як знайсці гэтыя грошы я не ведаю.

У нас заўжды была добрая каманда, хоць адны людзі сыходзяць, другія з'яўляюцца. Мне падабаецца працаваць з людзьмі, у нас многа таленавітых і цікавых аўтараў, як, напрыклад, Арсеній Ліс, Алесь Кіркевіч. Сярод нашых чытачаў былі ці ёсць Г. Бураўкін, Н. Гілевіч, У. Някляеў, У. Арлоў. Той жа З. Бартосік кажа, што газета "Новы час" гэта амаль адзінае выданьне, якое ён чытае ад першай старонкі да апошняй.

Што пра будучыню, то зноў жа шмат чаго ўпіраецца ў грошы. Здолеем знайсці тысяч дзесяць падрісчыкаў – многія праблемы вырашацца. Тым больш, што ідэяў вельмі шмат. Ёсць шэраг праектаў, якія б хацелася рэалізаваць.

*В.Ш.* **Сп. Аксана, вялікі дзякуй за інтэрв'ю. Зычу вам і вашай газеце ўдачы і творчых посьпехаў.**

**Valiantsina Chauchenka: Express interview with Oksana Kolb, chief editor of "Novy Chas"**

***("CULTURE. NATION", September 2017, issue 19, p.66-68;*** www.sakavik.net***)***

Express interview with Aksana Kolb, chief editor of "Novy Chas" newspaper, was taken by Valiantsina Shauchenka for the magazine "Culture. Nation" during the 7th World Congress of Belarusians (Minsk, 15-16 July 2017).

*З жыцьця беларускіх суполак*

**Алег Рудакоў: Святкаваньне беларускіх дажынак у Іркуцку**

*Сп. Алег Рудакоў, нястомны і даўні кіраўнік беларускай суполкі ў Іркуцку, даслаў нам інфармацыю-аб’яву аб святкаваньні беларускіх “Дажынак”, там, далёка ў Расіі, і кароткі артыкул журналіста Ольги Липчинской аб тым, як гэта сьвята праходзіла. Рэдакцыя вырашыла падаць гэтыя матэрыялы ў 19-м нумары - дзе б ні жылі беларусы сярод іх заўжды знойдуцца людзі, якія далёка ад радзімы кропля за кропляй падтрымліваюць дух беларускага народа.*

**Белорусский старинный праздник “Дажынкі-2017”**

Дорогие Друзья!!

**16 сентября – состоится традиционный белорусский праздник «Дажынкі»!!**

**Иркутский Белорусский клуб «Крывічы»** традиционно организовывает и проводит белорусский обряд «Дажынкі», посвящённый окончанию уборки урожая зерновых. В этом году мы проводим Праздник в белорусском селе Тургеневка Баяндаевского района Иркутской области.

В мероприятии примут участие белорусские коллективы из Иркутска и Иркутской области, включая коллективы:

- Ансамбль аутентичной песни «Крывічы» (г. Иркутск),
Народный ансамбль «Варэнічкі» (с. Тургеневка),
Детский ансамбль «Рушнічок» (с. Тургеневка),
Фольклорный ансамбль «Веснянкі» (д. Ахины, Эхирит-Булагатского района), и другие.

Праздник будет состоять из трёх основных частей:

- В 12-00 начнётся **Обряд «Дажынкі»** на поле фермерского хозяйства «Игоревка».

- В 14-00 на центральной площадке села Тургеневка начнётся **Торжественный Концерт**, посвящённый Дню села Тургеневка.
- В 16-00 **танцевальная программа**, на которой можно всем желающим научиться танцевать народные белорусские танцы.

«Дажынкі» - яркий и красивый Обряд. На него беларусы собираются всем селом. Оставленный участок несжатого поля нужно будет убирать серпами. Каждому кто приедет на наш праздник представится возможность попробовать свои силы в традиционном способе жатвы серпом и вязании снопов.

Множество красивых «дожиночных» песен, хороводов, игр…

Но главное, будет совершён красивый Обряд благодарности Земле-кормилице…

Не пропустите! Присоединяйтесь к нам!!

Вход на все этапы праздника бесплатный.

Для представителей СМИ, желающих поехать на нашем автобусе существует запись!!! Звоните.

Мы ждём Вас на нашем Празднике!

Алег Рудакоў.

тел. 8-902-17-068-30

(3952) 40-11-45.

e-mail: malanka2000@mail.ru

**Ольга Липчинская: Дожинки в Сибири - как под Иркутском белорусы благодарили землю-кормилицу** *(«КП» - Иркутск)*

Большой народный праздник прошел в селе Тургеневка.

Село Тургеневка. В 1909 году здесь обосновались белорусы, приехавшие в Сибирь в поисках лучшей доли, из пограничного с Польшей Западного Полесья. С тех пор прошло больше сотни лет. Сейчас в селе числится немногим более 700 человек и далеко не каждый из них официально «записан» белорусом. Однако здесь знают родной язык, чтят обычаи предков и дружно гуляют народные праздники.

На днях отмечали Дожинки. Кто вдруг не знает – это древний славянский праздник урожая, история которого насчитывает столько лет, сколько хлебопашцы возделывают землю. По обычаю Дожинки, обряд благодарности земле-кормилице, устраивают в день окончания жатвы. И тысячи лет сценарий его в славянских селах остается прежним.

…Вот старшая жнея выходит на поле. Уверенный взмах с серпом – и срезаны колосья. Вот следом идет другая, третья, четвертая… На поле - только женщины, так правильно, таков обычай. Все действо сопровождается песнями…

-По традиции так: на празднике сначала с серпом в поле идут женщины постарше, потом молодые, - говорит председатель белорусского клуба «Кривичи» Воля Галанова. – В этом празднике участвовали и мы, и представительницы деревни. Жали, снопы вязали, сноп хозяину поля отдавали, «бороду» на ниве оставляли. Все по правилам!

Стоп, какую такую бороду? Оказывается, самую что ни на есть настоящую. Ну почти. Из древней славянской мифологии.

-По народным поверьям, за урожай отвечала Коза, она олицетворяла земное плодородие, - объясняет Воля Галанова. – Да и когда поле «волнуется», из-за ветра, это похоже на козьи завитки. Нашим предки считали, что обязательно необходимо, проводя этот обряд, «завить Козе бороду». Вот мы это и делаем. Оставляем несжатыми тридцать колосьев. Потом их надо прополоть, чтобы в следующем году на полях не было сорняков, полить из глиняного кувшина, чтобы миновать засуху. После этого каждый стебель срезают снопом по отдельности. Оставляют три колоска. В них закатывают ломоть хлеба из зерна предыдущего урожая, а сами

колоски зарывают в землю. Люди верят, что благодарная земля на следующий год родит еще больше зерна.

-А «хозяин поля – кто?», - спросите вы. Поле районное, значит, хозяин его – глава района. Его специально пригласили на праздник. И глава, колоритный бурят Анатолий Табинаев, ради такого дела, как праздник у белорусов, бросил все дела и в собственный выходной приехал в Тургеневку. Сноп, который ему подарили, клятвенно обещал хранить в сохранности. Потому как сам целиком за народные традиции и, само собой, за урожай.

А солнце светило, радовало глаз. День выдался на редкость – солнечный, ясный, теплый. Самое время, праздик праздновать и хороводы водить. Так и водили! И в поле, возле свежескошенных снопов, после обряда. И уже в деревне. С огромным удовольствием! А какие песни белорусские, народные, пели! А танцы…

-Я второй раз побывала на Дажынках, - рассказывает иркутянка Олеся Стасевич. – Впечатление невероятное! Особенно в этом году, когда еще и с погодой повезло. Все вокруг золотом покрыто. Красота. И снопы – тоже золотистые. И лица вокруг – светлые, радостные. Жители Тургеневки чтят традиции, несмотря на то, что они находятся за шесть тысяч километров от Полесья, они – настоящие белорусы.

К Дожинкам в Тургеневке аккурат подгадали День села. Праздник устроили на зависть. И местные ребятишки постарались, и сельский ансамль «Вареничок», и «Рушничок», инародный ансамбль аутентичной песни «Кривичи» из Иркутска. Приехали гости из другого белорусского села – Ахины, привезли свой ансамбль – «Веснянка». Местные хозяйки кормили всех желающих главным белорусским блюдом – драниками. А завершились Дожинки по традиции праздничным застольем с характерными для белорусов блюдами из картошки, дожиночной кашей «сыто» с салом и многими другими яствами.

**Aleg Rudakou: Celebration of the Belarusian "Dazhynki" in Irkutsk**
***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, p.69-72;*** www.sakavik.net***)***

Aleg Rudakou, the tireless and long-time head of the Belarusian Association in Irkutsk, sent us the community information, the announcement of the celebration of the Belarusian "Dazhynki", there, far away in Russia, and a short article by journalist Olga Lipchinsky how this feast was held. Wherever Belarusians lived among them, there will always be people who are far from home, drop by drop support the spirit of the Belarusian people.

*Важнейшыя юбілейныя даты ў жыцьці беларусаў у 2017*

**1155 год Полацку** (у 862 годзе ўпамінаньне ў “Летапісу мінулых год”)

**950 гадоў Мінску** (у 1067 годзе ўпамінаньне ў “Летапісу мінулых год”)

**655 гадоў** назад (1362) войскі Вялікага княства Літоўскага на чале з Альгердам разграмілі аб’яднаныя сілы Залатой Арды на р. Сінія Воды

**500 годдзе беларускаму кнігадруку - у 1517 годзе Францыск Скарына надрукаваў першую беларускамоўную кнігу “Псалтырь”**

**490 гадоў** з дня нараджэння **Канстанціна Васіля Астрожскага**, палітычнага і культурнага дзеяча ВКЛ *(1527-1608)*

**400 гадоў** з часу заснавання (1617) гімназіі ў Слуцку, адной са старэйшых сярэдніх навучальных устаноў у Беларусі (з 1788 г. публічнае евангелісцкае вучылішча, з 1809 г. павятовае вучылішча, з 1827 г. гімназія, у 1868 – 1918 гг. класічная гімназія)

**375 гадоў** з дня нараджэння **Абуховіча Тэадора** (1642 – 1707), пісьменніка-мемуарыста, дзяржаўнага дзеяча Вялікага княства Літоўскага

**255 гадоў** назад (1762) у Гродне заснавана балетнае вучылішча (існавала да 1785 г.)

**165 гадоў** назад (1852) тэатр В.Дуніна-Марцінкевіча паставіў у Мінску першую беларускую оперу “Сялянка” (“Ідылія”) (музыка С.Манюшкі і К.Кржыжаноўскага, лібрэта В.Дуніна-Марцінкевіча)

**155 гадоў** з часу выдання (1862) беларускага буквара (выдадзены ў Варшаве А.У.Аскеркам)

**135 гадоў** з дня нараджэння вялікіх песняроў беларускага народа, класікаў нацыянальнай літаратуры **Янкі Купалы і Якуба Коласа**

**110 гадоў** назад (1907) у Вільні створана выдавецтва “Нашай Нівы” (існавала па 1914 г.)

**110 гадоў** назад (1907) створана першая беларуская тэатральная трупа Ігната Буйніцкага (існавала па 1913 г.)

**100 год** ад пачатку працы **І-га Ўсебеларускага сходу** (сьнежань 1917)

**Calendar of important events in the life of the Belarusians in 2017**

**1155 years of Polotsk** (in 862 mentioned in the "Chronicle of Bygone Years")

**950 years of Minsk** (in 1067 mentioned in the "Chronicle of Bygone Years")

**655 years** ago, in 1362, troops of the Grand Duchy of Lithuania, led by **Alherd** defeated the combined forces of the Golden Horde on the river Blue Water

**500 anniversary of Belarusian book printing - in 1517 Frantsisk Skaryna printed the first Belarusian-language book "Psaltyr"**

**490 years** since the birth of Konstantin V. Astrorzsky (1527-1608)

**400 years** since the founding of gymnasium in Slutsk (1617), one of the oldest secondary schools in Belarus (from 1788 public evangelical school, a school district in 1809, in 1827 high school, in 1868 - 1918 Classical Gymnasium)

**375 years** since the birth of Abukhovich Theodore (1642 - 1707), writer, memoirist, a statesman of the Grand Duchy of Lithuania

**255 years** ago ballet school was founded in Grodno ((1762, it existed until 1785)

**165 years** ago, in 1852, theater placed in Minsk **the first Belarusian opera** "The Maid" ("Idyll") (music by S. Manyushka, K. Kryzhanouskaga, libretto by V. Dunin-Marcinkevich)

**155 years** since the publication (1862) of **Belarusian primer** (ABC) published in Warsaw by A.U.Askerka

**135 years** since the birth of the great poets of the Belarusian people, the classics of the national literature - **Yanka Kupala, Yakub Kolas**

**110 years** ago (1907) in Vilnius publishing house "Nasha Niva" was established (existed till 1914)

**110 years** ago (1907) the first Belarusian theater troupe I. Bujnitskaga was created

**100 years from the 1st All-Belarusian Congress (December 1917)**

Sources for calendar:
*http://moiro.by/index.php?option=com_k2&view=item&id=1935&Itemid=14&lang=be*
*https://biblioshtuchki.jimdo.com*

**Calendar of important events in the life of the Belarusians in 2017**
***(“CULTURE. NATION”, September 2017, issue 19, p.72-75;*** www.sakavik.net***)***

*Наступны 20-ты нумар часопіса «КУЛЬТУРА, НАЦЫЯ» выйдзе ў сьнежні 2017 года*